PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1857) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 15 СНЕЖНЯ 1991 г. ЦАНА 1000 зл.



*Пачатковая школа ў Старым Ляўкове.*

Новае і Старое Ляўкова, гэта фармальна дзве вёскі, але фактычна адна, доўгая на кіламетры два. У пачатку лістапада Ляўкова плюхалася ў балоце. Асабліва многа было яго на тэрыторыі керамічнай фабрыкі. Фабрыка пабудавана на гліне, таму столькі балота, цяжкага і ліпучага — сказалі жанчыны на вахце. Дырэктар якраз адсутнічаў, чаго не вельмі было шкада, балазе, ягонае бюро на другім канцы пляца, за вялікім балотам.

Уздоўж асфальтавай вуліцы Старога Ляўкова быў выкапаны роў, каля якога завіхаліся некалькі чалавек. Клалі вадаправод. Лягчэйшую работу выканалі дзеці з мясцовае школы. Яе дырэктар Валянцін Барташук кажа, што такім спосабам войт гміны Нараўка даў магчымасць школе крыху падзарабіць. Праца не была цяжкая, вучні капалі ў мякчэйшых месцах, роў не глыбокі. Школа зарабіла два разы больш, чымсьці вартая была гэта работа. Так па-джэнтльменску дамовіліся войт, дырэктар школы, бацькі і найбольш зацікаўленыя — дзеці. Заробленыя грошы пакрыюць 7-мільённы гадавы дэфіцыт школы. Будзе можна купіць вугаль на зіму, заплаціць апальшчыкам.

Увесь свет круціцца вакол грошай, тое самае і са школьніцтвам. Становішча асветы цяжкае, але не зменіцца яно, пакуль не зменіцца эканамічная сітуацыя краіны. Вядома ж, якая яна сёння — адных беспрацоўных два мільёны. Дырэктар Барташук лічыць, што не нашмат лягчэй стане дыхаць школам, калі яны будуць падпарадкаваны органам тэрытарыяльнага самакіравання. Усё роўна, ці бюджэт дзяржавы, ці гміны, бярэцца ён з падаткаў. Не будзе грошай на падаткі — не будзе і на асвету. Калісьці пэўна будзе лепш, але на гэта давядзецца пачакаць яшчэ пару добрых гадоў. Найважнейшае цяпер, каб школы нармальна працавалі, каб дзеці не адчувалі тых праблемаў, з якімі мы, дарослыя, не можам даць рады — гаворыць дырэктар Барташук.

## КАБ НЕ БЯДА...

У такіх выпадках, калі наведваю нейкую школу, зусім натуральна, само па сабе, з'яўляецца пытанне пра навучанне беларускай мовы. Школа ў Старым Ляўкове адзначаецца тым, што адзін год тут амаль усе дзеці вучацца беларускай мове, а на другі — нязначны працэнт. Цяпер толькі каля трэцяе часткі вучняў ходзіць на ўрокі беларускай мовы. Дырэктар Валянцін Барташук лічыць, што вінавата тут павялічаная праграма навучання гэтага прадмета. Чатыры гадзіны ў тыдзень, гэта замнога, бо дзіця і так абцяжаранае іншымі, больш яму патрэбнымі заняткамі, як польская мова, матэматыка, фізіка. Гэта якраз перспектыўныя прадметы, ад іх вывучання напэўна будзе карысць, але ад беларускай мовы... Калі б было яе толькі дзве гадзіны, дзеці згадзіліся б з такой дадатковай нагрузкай, але чатыры, дык зацяжка ім. Таму і не ходзяць на ўрокі.

Доўгія гады ў гэтай школе спяваў, у большасці беларускія песні, вялікі вучнёўскі хор. Быў ён створаны ў пачатку шасцідзесятых гадоў, на аглядах беларускай песні для школьнікаў заўсёды заваёўваў адно з першых месцаў. Хорам кіраваў Васіль Целушэцкі. Апошнім часам працаваў у школе на паўстаўкі, але ў гэтым годзе, у сувязі з фінансавымі абмежаваннямі ў асвеце, не хапіла для яго гадзін. Перастаў існаваць і хор. Не вучыўшы ў школе, цяжка навесці якую-небудзь дысцыпліну, сабраць вучняў, не гаворачы ўжо пра добрую іх падрыхтоўку — кажа Васіль Целушэцкі.

Старая гэта праўда: галодны ні пра што не думае, акрамя хлеба. Беднаму да лямпачкі такія паняцці, як культура, родная мова, нейкая там свядомасць. Але няўжо ж мы так збяднелі, згаладнелі, каб толькі пра грошы ды пра поўны жывот думаць?

МІКОЛА ВАЎРАНЮК
Фота Я. Целушэцкага

## КАРАЛЕВЕЦ — МАРСКІ ПОРТ БЕЛАРУСІ?

**Францысканскі экалагічны рух** арганізаваў у Гданьску ў днях 8-10 лістапада г.г. III Міжнародны сімпозіум пад лозунгам: **„Да інтэграцыі балтыйскіх краін"**. Уводны даклад азагалоўлены „Гістарычны нарыс сувязяў краін і рэгіёнаў Балтыйскай Еўропы" прачытаў **прафесар Анджэй Піскозуб** з Гданьскага універсітэта.

Матывам даклада, які выклікаў дыскусію з прысутнай на сімпозіуме дэлегацыяй з Калінінграда, былі гістарычныя сувязі земляў даўняга Вялікага княства Літоўскага з портам у Каралеўцы — сённяшнім Калінінградам.

Вялікае княства Літоўскае, плошчай нязначна меншае за цяперашнюю тэрыторыю Польшчы, гэта перш за ўсё сённяшняя Беларусь (звыш 3/4 плошчы В.к.Л.) і выразна меншая ад яе Літва. Даўняе Вялікае княства Літоўскае мела толькі сімвалічны доступ да Балтыкі каля Паланґі. Марскі гандаль гэтай вялікай краіны такім чынам праходзіў праз чужыя парты.

Польская літаратура ўвекавечыла карціну даўніх гандлёвых кантактаў Вялікага княства Літоўскага з Каралеўцам. Міцкевіч у „Пану Тадэушу" паказвае Баўтрука з засценка Дабрынскіх, празыванага Прусак, „каторы не раз у Каралевец са стругамі хадзіў". Манюшка ў песні „Prząśniczki" прадстаўляе юнака, які ў Каралевец ехаў на віціне — лодцы характэрнай для земляў Вялікага княства Літоўскага.

Літва, разам з незалежнасцю пасля I сусветнай вайны атрымала, распалажаную на поўнач ад Нёмана, частку Усходняй Прусіі з марскім портам у Клайпедзе. Тудою з гэтай пары ідзе экспарт з Літвы марскім шляхам. Беларусь толькі зараз выбіваецца на незалежнасць — як адна з большых еўрапейскіх дзяржаў (208 тысяч кв.км.), пазбаўленых доступу да мора.

Уціснута між Польшчу і Літву тая частка даўняга Вялікага княства Літоўскага, якая з'яўляецца калінінградскім энклавам, вырастае на натуральны беларускі балтыйскі калідор, напамінаючы польскі „паморскі калідор" з міжваенных гадоў. Марскі порт у Каралеўцы-Калінінградзе ў такой сітуацыі явіцца не толькі міраж „савецкага Ганконга", але і адпаведнік „беларускай Гдыні".

Не толькі фактар геаграфіі і гаспадарчай гісторыі спалучае землі Беларусі з вусцем Прэголі. Варта памятаць аб генезісе ўзнікнення калінінградскага энклава. У гадах 1939-1941 занята Чырвонай Арміяй беластоцкая акруга была ўключана ў

( Працяг на стар. 4 )

## НА МЯЖЫ

### АДРАДЖЭННЕ

(2)

Радыё і тэлебачанне, урачыстыя імпрэзы і школа па сутнасці вычэрпваюць праявы ўжывання беларускай мовы ў сённяшняй Беларусі. Сведчыць гэта аб тым, што працэс беларусізацыі знаходзіцца толькі ў пачатковай стадыі. Да яго завяршэння вельмі далёка. Цвярдынямі расейшчыны застаюцца ўсе дзяржаўныя ўстановы, заводы, сямейнае жыццё і вуліца. І толькі тады, калі беларуская мова выцесніць расейшчыну з дзяржаўных установаў, фабрык і заводаў, здабудзе грамадзянскі статус у сем'ях і калі ўрэшце ападзе вуліцу, можна будзе гаварыць аб трыумфе беларушчыны. Да гэтага шчаслівага дня яшчэ вельмі далёка. На гэтым шляху я прадбачваю вельмі вялікія пагрозы і цяжкасці. Звязаны яны з тым, што Беларусь будзе прымушана заплаціць страшэнна вялікую эканамічную цану за сваю незалежнасць. Ужо сёння матэрыяльнае жыццё стала намнога горшым, чым было пры старым рэжыме. А гэта толькі пачатак злога. Беларускія фабрыкі і заводы выкарыстоўваюць сёння толькі частку сваіх прадукцыйных магчымасцей. А гэта таму, што не хапае сыравіны, якую пастаўлялі ў Беларусь іншыя рэспублікі. Супрацоўніцтва паміж былымі рэспублікамі, а сёння ўжо незалежнымі дзяржавамі, у некаторых галінах зведзена да нуля. Вытворчасць пачынае рэзка падаць. Выступае страшэнная няхватка тавараў. Многія беларусы гавораць аб тым, што Беларусі пагражае голад. Калі б нават гэтыя страшэнныя прагнозы не пацвердзіліся, то няма сумненняў, што заўтра будзе значна горш, чым ёсць сёння. І вось у гэтым чорным крызісе бачу галоўную пагрозу для нацыянальнага беларускага адраджэння. Не сумняваюся, што на Беларусі знойдзецца многа людзей, якія пачнуць шырыць тэзіс аб тым, што ўсяму вінавата беларусізацыя і незалежнасць. Зрэшты, і без такога тыпу правакатараў простыя людзі будуць схільны звальваць на незалежнасць віну за гаспадарчыя аферы, разгул дзікай прыватызацыі, крызісы і пастаяннае пагоршванне жыцця, якія станцуць вельмі частымі з'явамі ў перыяд пераходу ад сацыялізму да капіталізму. Нам гэтага не трэба тлумачыць, бо мы такі ўрок перараблялі ўжо некалькі гадоў. Зрэшты, у Беларусі ўрок гэты будзе мець намнога гвалтоўнейшы і жорсткі характар.

### АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

І, нягледзячы на гэта ўсё, я ўсё ж такі веру ў адраджэнне Беларусі. І найбольшыя надзеі ўскладаю на беларускую нацыянальную асвету. Тое пакаленне беларусаў, якое ідзе ў першы клас сёння і якое будзе паслядоўна вучыцца па-беларуску, стане носьбітам беларускай мовы і беларускага гонару.

Як вядома, у дзяцей ва ўзросце 12-13 гадоў выступаюць розныя праявы канфліктаў з бацькамі. Дагэтуль у Беларусі ў такога тыпу канфліктах мова не адыгрывала ніякай ролі, бо як бацькі так і дзеці былі рускамоўнымі. У недалёкай будучыні на тэрыторыі Беларусі ў такіх канфліктах мова будзе адыгрываць істотную ролю, гэта значыць стане адным з чыннікаў непаразуменняў паміж бацькамі, якія будуць паслугоўвацца расейшчынай і дзецьмі, якія будуць карыстацца беларушчынай. Зразумела, што нас не можа цешыць перспектыва якіх-небудзь канфліктаў паміж пакаленнямі, адпак дзеля вернасці ў адносінах да праўды, не можам аб гэтым не гаварыць. Я асабіста не сумняваюся, што перамога будзе на баку дзяцей, гэта значыць, на баку беларушчыны. Аднак не станецца гэта адразу. Будзе гэта складаны і балючы працэс, у якім беларускі гонар, прайшоўшы праз чорныя выпрабаванні і пакуты — пераможа. І вось тады поўнае беларускае адраджэнне стане фактам.

АЛЕСЬ БАРСКІ

****************************************************************************************

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Сейм вырашыў прыняць адстаўку ўрада Яна Кшыштофа Бялецкага.** Адначасна Сейм даручыў гэтаму ўраду выпаўняць свае абавязкі да часу сфармавання новай рады міністраў.

**Прэзідэнт Лех Валэнса** перадаў у Сейм прапанову прызначыць на пасаду новага прэм'ер-міністра **Яна Альшэўскага**. Сейм адобрыў кандыдатуру ( 250 паслоў галасавала за, 47– супраць, а 107 – устрымалася ад голасу ).

**Бутрос Галі** — віцэ-прэм'ер Егіпта выбраны на пасаду генеральнага сакратара ААН на працяг пяці гадоў. Выконванне службовых абавязкаў пачне ён 1 студзеня 1992 года.

**На Украіне** адбыліся прэзідэнцкія выбары і рэферэндум у справе незалежнасці. Выйграў **Леанід Краўчук** — да гэтага часу старшыня Вярхоўнага Савета, які заявіў, што ні ў якім разе не падпіша саюзнага дагавору.

**Польшча афіцыйна прызнала незалежнасць Украіны.** У заяве ўрада Рэчыпаспалітай Польскай чытаем: „Беручы пад увагу добры стан і інтэнсіўнасць польска-украінскіх адносін і ўлічваючы вынікі рэферэндума ад 1 снежня г.г. у справе незалежнасці Украіны, урад РП прызнае Украіну як дзяржаву і пастанаўляе наладзіць з ёю дыпламатычныя зносіны".

**Міністр замежных спраў Кшыштоф Скубішэўскі** сустрэўся з пасламі 12 дзяржаў-удзельніц Еўрапейскіх супольнасцей. Праінфармаваў ён заходніх дыпламатаў аб праблемах польскай усходняй палітыкі, асабліва аб адносінах паміж Польшчай і Украінай.

Правадыры трох славянскіх рэспублік: прэзідэнт Расіі–**Барыс Ельцын** і Украіны–**Леанід Краўчук** і старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі–**Станіслаў Шушкевіч** сустрэліся на дачы каля Брэста. Вырашылі яны стварыць супольнасць трох незалежных дзяржаў з адміністрацыйным цэнтрам у Менску.

**У сувязі з інтэрв'ю літоўскага міністра абароны Андр'юса Буткевічуса** для газеты „Летувос айдас", у якім ён унушаў існаванне мілітарнай і палітычнай пагрозы з боку Польшчы, Пасольства РП у Вільні склала афіцыйнае абвяржэнне, у якім катэгарычна адкідае гэтага роду абвінавачанні.

**І Беластоцкі кірмаш кніжкі** адбыўся ў днях 29 лістапада — 1 снежня г.г. У кірмашы прыняло ўдзел 40 выдавецтваў з усяе краіны. Былі таксама запрошаны тры выдавецтвы з Беларусі — з Менска і Гродна. Беларусы прыехалі без кніжак. На кірмашы не былі падпісаны ніякія сур'ёзныя дагаворы з выдавецтвамі з-за ўсходняй мяжы.

Старшыня Гродзенскага аблвыканкама **Дзмітры Арцыменя** панёс прыватны візіт Беластоцкаму ваяводу **Станіславу Пруціцу**.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### БЕЗ ЦЯБЕ БАЛЬШАВІКІ НЕ АБЫЙДУЦЦА?

Нягледзячы на тое, што парламент рэспублікі даў законнае права беларускім хлопцам служыць толькі на сваёй зямлі, 34 юнакі з колішняга восеньскага прызыву ўжо пажадалі праходзіць вайсковую службу за межамі Бацькаўшчыны. Прычым, чацвёра з ліку гэтых добраахвотнікаў адправіліся служыць у Нямеччыну, астатнія напрасіліся ў Ваенна-марскі флот Саюза.

Зрэшты, колькасць нашых хлопцаў жадаючых паслужыць у войску за межамі свайго краю можа павялічыцца, бо вайсковы прызыў на Беларусі скончыцца толькі ў канцы снежня.

### КЛІЧА БАЦЬКАЎШЧЫНА

Мільянер з Аргенціны Эктар Свістуновіч нядаўна наведаў радзіму сваіх нашчадкаў — горад Баранавічы. Пасля дэталёвага знаёмства з прамысловым рынкам горада госць паведаміў, што мае намер адкрыць тут уласнае прадпрыемства, якое будзе шыць адзенне. Уся вытворчасць фірмы Свістуновіча будзе прадавацца за рублі, што асабліва прыйшлося дадспадобы мясцовым жыхарам.

### ВІВАТ, АКАДЭМІЯ!

Урад Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб рэарганізацыі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў акадэмію мастацтваў. Акрамя таго зацверджаны каштарыс расходаў на будаўніцтва новага гарадка для гэтай установы.

### ПРЫВІД КАМУНІЗМУ ЗНОЎ БЛУКАЕ НА БЕЛАРУСІ

Не зважаючы на часовую забарону дзейнасці Кампартыі Беларусі парламентам рэспублікі, у многіх беларускіх гарадах прайшлі сходы камуністаў, на якіх былі абраны дэлегаты на з'езд аднаўленай партыі.

Першапачаткова з'езд камуністаў намячалася правесці 30 лістапада ў Менску. Аднак мясцовыя ўлады не рызыкнулі даць дазвол на правядзенне форуму забароненай арганізацыі. Акрамя таго, і Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Мікалай Ігнатовіч папярэдзіў арганізатараў з'езда аб адказнасці ў выпадку яго правядзення. Прыняўшы ўсё гэта да ведама, адраджэнцы кампартыі перанеслі сход на 13-14 снежня.

Зрэшты, магчыма да гэтага часу сесія Вярхоўнага Савета Беларусі, што пачне сваю работу 10 снежня, ужо вырашыць лёс кампартыі рэспублікі.

### АРТЫСТЫ СКАЗАЛІ „БАСТА"

У канцы лістапада артысты Магілёўскага абласнога драмтэатра правялі папераджальную забастоўку. Артысты патрабуюць неадкладнай рэканструкцыі стогадовага будынка тэатра і прадстаўлення ім новага памяшкання для работы.

### ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ

Сям'я амерыканскага святара Пола Мора даставіла ў Менск для дзяцей Чарнобыля 75 тон лекаў, вітамінаў, дзіцячага харчавання, медыцынскай тэхнікі.

Гэта толькі першая партыя дабрачыннага грузу. У сярэдзіне снежня і пачатку студзеня наступнага года дабрачынцы плануюць прывезці яшчэ некалькі дзесяткаў тон медпрэпаратаў. 2 снежня сям'ю Пола Мора прыняў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч.

### Я — ГРАМАДЗЯНІН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Урад Беларусі даручыў Міністэрству ўнутраных спраў рэспублікі да 1 лютага 1992 года распрацаваць узор новага беларускага пашпарта.

Мяркуецца, што новы пашпарт грамадзяніна Беларусі, у адрозненні ад старога савецкага, будзе сапраўдным як у рэспубліцы, так і за яе межамі. Па прагнозах спецыялістаў поўная пашпартызацыя грамадзян Беларусі завершыцца не раней, чым праз 6 гадоў, бо памяняць пашпарты давядзецца прыкладна васьмі мільёнам беларусаў.

МІКОЛА ДЗЯБЁЛА

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Аб святкаваннях гадавіны Максіма Багдановіча.
* Беластоцкія сустрэчы з культурай пагранічча.
* Беларускі літаратурны рух у Польшчы.
* Царква ў Старасельцах.
* Весткі з Менска.

# СТАРАЖЫТНЫЯ КАРАНІ БЕЛАРУСАЎ

15 лістапада ў аўдыторыі філіі Варшаўскага Унівэрсытэту ў Беластоку прайшлі, арганізаваныя Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў, атрасіны студэнтаў першага курсу беластоцкіх навучальных установаў. Арганізатары запланавалі імпрэзу на восьмую гадзіну вечара, аднак афіцыйны яе пачатак адцягнуўся да дзевятай. Відаць, першакурсьнікі, прадчуваючы зьдзекі, якія мелі чыніць над імі старэйшыя сябры, не кваліліся стаць пасьмешышчам для трохсот прагных пацехі ўдзельнікаў імпрэзы. А людзей было сапраўды шмат — зь Беластоку й з Варшавы, палякі й беларусы, студэнты й вучні, сьвядомыя й несьвядомыя.

Арганізатары сёлетніх атрасінаў прынялі форму „старажытнага Рыму” — быў Нэрон у вянку з дубовых лісткоў на галаве, адданыя яму легіянеры ды не менш адданыя цэзару нявольніцы, адною зь якіх была аўтарка гэтых радкоў. Усе, вядома-ж, апранутыя ў белыя халаты, так як гэта было прынята ў той час у Рыме. Першакурсьнікі-ж выступалі ў характары нявольнікаў з заваяваных Рымам тэрыторыяў — бяз іх старажытны Рым не быў бы сабою. Каб атрымаць свабоду, першакурсьнікі мусілі выканаць усе загады Нэрона. Непакорным першакурсьнікам дапамагалі „цэзаравы людзі”, значыць легіянеры, у якіх хаця і не было коп'яў, але затое паскручванымі ручнікамі надта-ж пасьняхова лупцавалі ўсіх бунтароў. Нявольнікі мелі шмат нагодаў, каб паказаць Нэрону, што заслугоўваюць на свабоду: трэба было танцаваць перад Нэронам, давесьці яго да сьмеху, усхваліць ягоную мудрасьць і прыгажосьць у паэтычных формах (кожны, хто бачыў Нэрона на беластоцкіх „Атрасінах”, ведае, што не была гэта лёгкая задача), хлопцам даводзілася ўдзельнічаць у спаборніцтвах, у якіх маглі паказаць сваю фізычную спраўнасьць — змаганьні глядыятараў, гонкі рыдванаў (варта было пабачыць, як хлопцы на сваіх плячох вазілі дзяўчат), змаганьне з быком (найцяжэйшае і найстрашнейшае спаборніцтва падрыхтаванае арганізатарамі). Гэты бык (выглядаў як сапраўдны) хоць і не пастрашыў ні публіку, ні першакурсьнікаў, то стаў галоўным атракцыёнам імпрэзы — усе аж заходзіліся ад сьмеху.

Афіцыйная частка беластоцкіх „Атрасін” закончылася прысягай першакурсьнікаў на вернасьць беларускаму студэнцкаму руху ў Польшчы, пасьля чаго ўсе ў адзін голас адсьпявалі „Аксамітны летні вечар”. Пачаліся танцы, гульні, пацехі — да белай раніцы.

Студэнты беластоцкага БАСу вельмі акуратна падрыхтавалі сваё сьвята. Праўда, былі такія, што казалі, нібыта афіцыйная частка трывала даўгавата. Быў гэта голас варшаўскіх студэнтаў, якія разьлічвалі на тое, што іхнія атрасіны будуць цікавейшымі. Так не сталася... Пакуль што, да наступнага году многія будуць успамінаць перад усім беластоцкія атрасіны.

АЛЬЖБЕТА БУРА



*Цэзар з памочніцамі ацэньваюць новых рымлянаў.*



*Публіка вясёлая бо... маладая.* **Фота С. Іванюка.**

**************************************************************

# ВЕЧАР У ТАВАРЫСТВЕ „ПАМОСТ”

Таварыства „Памост” займаецца пашырэньнем ведаў пра нацыянальныя меншасьці ў польскім грамадстве. 27 лістапада ладзілася варшаўскім аддзьдзелам Таварыства сустрэча, якая была прысьвечана прайшоўшым выбарам у Парлямант. Як вядома, выбары прайгралі і Блёк Нацыянальных Меншасьцяў (украінцы, чэхі, славакі, літоўцы), і Беларускі Выбарчы Камітэт. Удзельнікі сустрэчы стараліся знайсьці адказ, чаму.

Дыскусію вёў прадстаўнік таварыства „Памост” Томаш Шчэпаньскі, удзельнічалі ў ёй: ад беларусаў праф. Аляксандр Баршчэўскі й член праўленьня Саюзу Украінцаў у Польшчы Мірaслаў Чэх. Камэнтуючы вельмі слабыя вынікі БВК на Беласточчыне, субяседнікі зрабілі вывад, што „клясавы і сацыяльны фактары перавысілі фактар нацыянальны”, калі аграмадны колькасьцю галасоў перамог тут кандыдат левых сілаў Уладзімеж Цімашэвіч. А. Баршчэўскі дадаў, што існуе пагроза ўзмацненьня рэлігійнага фактару за кошт нацыянальнага. Выказваньне гэтае датычыла разьбіцьця галасоў беларускага электарату паміж БВК і Выбарчы Камітэт Праваслаўных.

У ходзе дыскусіі выступіў др. Юры Туронак, які заўважыў, што галоўнай прычынай слабога ўдзелу беларусаў у выбарах зьяўляецца дэпалітызацыя ўсяго грамадзтва. На гэтым фоне паглыбленае эканамічных пэрспэктываў, зьбяднелае беларускае насельніцтва вёсак і мястэчак хутчэй паверыла абяцаньням сацыял-дэмакратаў, чымсьці ў тое, што беларускія прадстаўнікі ў Парляманьце змогуць за яго заступіцца. Сваю ролю адыграла таксама нізкая нацыянальная сьведамасьць жыхароў Усходняй Беласточчыны.

На запытаньне залы, чаму БГКТ не прыняло ўдзелу ў выбарах, А. Баршчэўскі сказаў, што было яно ад удзелу адсунутае і, што галоўнай мэтай Таварыства зьяўляецца культурная дзейнасьць, а не палітыка. Сьцьвердзіў ён таксама, што адзіная магчымасьць для беларусаў мець свайго пасла ў Сойме, гэта апазыцыя да польскай дзяржавы (зала паогул не зразумела). „Але мы не хочам, бо гэта вельмі цяжка” — сказаў нарэшце А. Баршчэўскі. Хто такія „мы”, я й мае сябры не маглі ўцяміць.

ЮРКА ГРЫГАРУК

# ЗАБАВА Й АБАВЯЗАК

Ход часу ў нашых думках найчасьцей спалучаецца з чымсьці адмоўным і вельмі сумным. Але напэўна не тады, калі мы можам прымаць у свае шэрагі новых студэнтаў, на якіх ускладваем свае надзеі, у якіх бачым заруку працягваньня дзейнасьці на нацыянальнай ніве. Надзеемся, што прынясуць яны ў беларускі студэнцкі рух новую энэргію, актыўнасьць, маладосьць і сьвежы дух. Чакаем, як штогоду, на вынаходлівасьць нашых малодшых сяброў, іх дасьціпнасьць і арыгінальнасьць думак. Таму менавіта ўзяліся мы за арганізаваньне чарговых варшаўскіх атрасін зь вялікай радасьцю.

Атрасіны '91 не праводзіліся ў унівэрсытэцкай сталоўцы на вуліцы Добрай (як гэта мела месца ў апошніх гадох), з увагі на вялізарныя кошты, ніякай-жа фінансавай падтрымкі звонку не было. Не гледзячы на розныя ўскладненьні, памяшканьне ўсё-ж такі знайшлося й 23 лістапада ў студэнцкім клюбе „Na Przyzbie” зноў гучала беларуская песьня й усе прысутныя акунуліся ў свойскую атмасфэру.

Атрасіны, як кажа традыцыя, вялі студэнты другога курсу. У гэтым годзе той прыемны абавязак узялі на сябе: рэдкі сярод нашых дзяўчат „дакладны розум” Бася Харкевіч (студэнтка аднаго з цяжэйшых аддзьдзяленьняў Варшаўскай Палітэхнікі) і „вялікі народны гісторык” Іван (Яраслаў Іванюк — студэнт гісторыі Варшаўскага Унівэрсытэту).

Забава, сьмех, спаборніцтва між першакурсьнікамі, гэта сутнасьць атрасін. Усё пад мэлёдыі „Уліса”, „Грамады” ці Воюша. Першакурсьнікі спачатку былі крыху нясьмелыя, але падахвочаныя старэйшымі сябрамі, штораз актыўней падключаліся да супольнай гульні, адчувалі сябе свабадней.

Урэшце прыйшоў гэты найважнейшы момант, пасьля якога сталі яны сапраўднымі беларускімі студэнтамі — прысяга. Як патрабавала павага абставін, прысягу чытаў найстарэйшы на сёньняшні дзень студэнт нашага асяродзьдзя, актыўны член БАСу Юрка Грыгарук. Варта адзначыць, што не забыў пра нас Данчык, які перадаў падарак — свае кружэлкі. Атрымалі іх першакурсьнікі, на памятку атрасін.

Перапыненая прысягай забава, працягвалася. Усе зь вялікай энэргіяй пайшлі ў танцы. Час ад часу ставалі, каб завесьці беларускую песьню, вядома, пад гітару Элі Бэзюк. У вясёлай атмасфэры гулялі мы да раніцы. Трэба было канчаць, а ўсім хацелася ўжо новых атрасін, якія, зразумела, будуць праз год.

Даючы ацэнку гэтага мерапрыемства, можна сказаць, што найбольшымі крытыкамі аказаліся самі арганізатары. Яны ведалі ўсе адмоўныя бакі падрыхтоўкі, бачылі недахопы імпрэзы. Маем надзею, што цераз год сёньняшнія першакурсьнікі пазьбегнуць нашых памылак. Разьлічваем на сьвежую думку, арыгінальнасьць, новыя канцэпцыі. Мы, са свайго боку, жадаем ім посьпехаў і дасягненьня ўсіх мэтаў, якія перад сабою паставілі. Жадаем не абы каму, а поўнапраўным студэнтам, сьвядомым сваіх абавязкаў перад родным.

**Ад імя варшаўскага гуртка БАСу**
**А.Н. і Т.Я.**




**Паважаная Рэдакцыя!**

Прашу ласкава зьмясьціць у Вашай газэце мой адказ на заяву, якую зрабіў сп. Алесь Барскі ў нумары „Нівы" за 2-га верасьня 1991 году.

Зьдзівіла мяне цьверджаньне сп. Барскага (А. Баршчэўскага), што мой нябожчык муж, Мікалай Заморскі, паабяцаў яму „выдзеліць некалькі дзесяткаў тысяч долараў на беларускую друкарню пры Таварыстве і Музеі" ў Гайнаўцы. Хоць сп. Барскі піша, што „лісты да жонкі Заморскага справы не выясьнілі" і дзеля гэтага ён зьвяртаецца да мяне праз газэту „Ніва", заяўляю, што ніякіх лістоў ад сп. Баршчэўскага я не атрымоўвала.

Муж мой быў шчодрым чалавекам, але грашыма не раскідаўся, і пра ніякія „дзесяткі тысяч долараў" мне нічога не казаў. А што да тысячы долараў, пра якія сп. Барскі піша ў „Ніве", пытаючыся ў мяне, што з гэтымі грашыма зрабіць, дык я прапаную аддаць іх на Беларускі Музей.

**З пашанай**
**Вера Заморская**

## КАРАЛЕВЕЦ— МАРСКІ ПОРТ БЕЛАРУСІ?

**( Працяг са стар. 1 )**

састаў Беларускай ССР. Пры вызначэнні ўсходняй границы Польшчы пасля II сусветнай вайны Сталін згадзіўся вярнуць Беласточчыну Польшчы, але пад варункам, што Савецкі Саюз атрымае паўночную частку Усходняй Прусіі з портам у Каралеўцы. Былі гэта дзве роўныя тэрыторыі, па 18 тысяч кв.км.; тэрыторыя Беларускай ССР у параўнанні са станам з 1941 г., была зменшана на столькі, колькі складае ваенны трафей Савецкага Саюза ва Усходняй Прусіі, які сёння з'яўляецца Калінінградскай вобласцю.

Перспектыва накіраваць марскі гандаль Беларусі праз калінінградскі энклаў адкрывае шырокія магчымасці для беларуска-польскага супрацоўніцтва ў галіне транспарту і камунікацыі. Клін польскай Сувальшчыны раздзяляе Беларусь ад калінінградскага энклава. Тудою вымушаны былі б пайсці чыгуначныя і дарожныя магістралі тых абшараў у варыянце, які прадбачвае абмінуць тэрыторыю Літвы. Польшча павінна быць моцна зацікаўлена гэтым транзітным пасрэдніцтвам, бо — па прынцыпу ўзаемнасці — замацуе яно пазіцыю Польшчы як дзяржавы, якая хоча пакарыстацца неабмежаванай свабодай мараплавання праз паўночную частку прыналежнага калінінградскаму энклаву Віслінскага заліва, які спалучае з Балтыкай Эльбланг і ўсю польскую частку заліва.

Будучыня Калінінграда і яго вобласці з'яўляецца ў апошніх гадах аб'ектам супярэчлівых, перакрыжаваных геапалітычных гіпотэзаў. Канцэпцыя, вынесена ў дакладзе праф. Піскозуба — зусім новы погляд на гэту справу. Таму і нічога дзіўнага, што выклікала яна выразнае зацікаўленне так польскіх удзельнікаў сімпозіума, як і гасцей з Калінінграда.

„Tygodnik Gdański"
( 24.11.1991г. )

## Свойскія малюнкі



Беласток.

*Мал. У. Петрука*

***************************************************************

## З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**28 сакавіка 1988 г.**

Krzyk z pogranicza, „Tygodnik Powszechny" ад 20-га. У падтрымку Скарадзінскаму і Карпу. Рэцэнзія студзеньскай „Więzi", якую цалкам прысвяцілі адной гэтай у ёй публікацыі. Во колькі віску аб „Białorusi, Białorusi"! І Дравічу крышку прыткнулі за „Zatrzymajmy się na Białorusi". Прашу Я. Вапу, каб занёс „Archiúny sšytak" Варашыльскаму, які сябруе з Дравічам. Хай узбагацяць яны свае аргументы ў абарону „В.В."

Надсон даслаў перадрукаваны з „A. sšyt." у выглядзе асобнае брашурыцы трагічны ліст ксяндза Чарняўскага (з паралельным ангельскім перакладам, пэўна, Джыма).

**31 сакавіка 1988 г.**

Беларускаму нашаму тут змаганню, каб нацыянальна выжыць, вельмі ж прыдасца самвыдавецкая кніжыца Ярослава — „Zmiany białoruskich nazw miejscowych Białostocczyzny w dwudziestowiecznej polskiej konwencji ich zapisu". Сёння атрымаў, 30 экз. Прыстойны эдытарскі ўзровень.

Хоць, з другога боку, трохі лішняя гэта ініцыятыва... Наконт тых назваў — вельмі шмат у „Archiúnym sšytku".

Зрушылася ў мяне з напісаннем дамоўленай з „Iskrami" кніжкі. Ужо першыя дзве старонкі. Будзе гэта — нарэшце перагатавалася ўва мне ідэя — літаратурны запіс маёй памяці пра Крынкі і ваколле.

Падрыхтаваў першую версію інтэрв'ю „Ніве" (пытанні Ваўк-а).

Туронак даслаў копію стар. 323-4 „Жывых прывідаў" Алеся Бажко. — „*У бязгрэшных праўдашукальніках значыцца Мілаш і ў асяроддзі нейкіх слізкіх, як вугры, польскіх дзялкоў ад літаратуры беларускага паходжання. Маюцца на ўвазе такія нашы „сябры", як Сакрат Яновіч...*" Etc. Імя і прозвішча маё надрукаваў, і БССРаўскім палахлівікам гэтага даволі. Паслаў яму „Krzyk rozpaczy" з надпісам: „*Фальсіфікатару Алесю Бажко...*" (на СП БССР).

**01-04-1988 г.**

Даведаўся — „Kurier Podlaski" ад 30-га атакуе мяне, па-свойму перадаючы змест гутаркі „Krzyk rozpaczy" і сумна вядомай рэцэнзіі Сэрчыка. Страшна і на вуліцу выйсці, увечары...

**03-04-1988 г.**

Учора прыехаў, а сёння выехаў Язэп Янушкевіч (з тых жа ракаўскіх Янушкевічаў). Ён у навуковай камандзіроўцы ў ПНР (ад паловы сакавіка да канца красавіка). Удзельнік мінскай „Талакі". Папраўдзе, дык нічога больш не расказаў ён звыш таго, чаго можна панура начытацца хаця б у „ЛіМ"е ад 25-га сакавіка... Ну, нейкі трэці ліст да Гарбачова ці бо Рыжкова ідзе ўжо з Беларусі. І што могуць зрабіцьператасоўку ў кіраўніцтве СП БССР, бо надакучае яно ўладам са смерцяй беларушчыны. Ага, яшчэ і КДБ моцна цікавіцца мною. — Будзем мандакамі, калі не пусцім артыкул пра Яновіча, — як быццам сказаў Петрашкевіч Шамякіну, галоўнаму рэдактару „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі". Ну і зрабіліся мандакамі (фармант: манда). З другога боку, гэткі праслед толькі пашырае папулярнасць ахвяры.

Гэта пры Шамякіне як старшыні парламента БССР вывелі бел. мову з афіцыйнай (В. Быкаў „Учора і сёння", „ЛіМ" — 25.III.).

**04.04.1988г.**

Чаго прыязджаў Янушкевіч? Па дарозе да нейкіх сваякоў у Сувалках? (на польскі Вялікдзень). Усякіх матэрыялаў, выданняў, я яму не пашкадаваў. Толькі, часам, падумаецца, ці быў сэнс? Ці ёсць сэнс нешта даваць наогул саветам? У іх жа такая атамізацыя грамадскага жыцця, што адзін аднаму нічога не пакажа. Усё баяцца!

**05.04.1988 г.**

У Варшаве. Пашпарт у Югаславію. ZLP выпраўляе мяне на нейкі міжнародны сімпазіён у Славеніі, прысвечаны пытанням меншасцяў і малых нацыяў (11-15.05.).

Пахадзіў з Тжышкам. Потым бачыўся з Туронкам. Усё набывае абаротаў, маху...

„Białoruski znak życia" у „салідарніцкім" — „Przegląd Wiadomości Agencyjnych" Nr 12 ад 23-га сакавіка. Пазнаць Скарадзінскага погляд на беларусаў. Але „Archiúnym sšytkam" захоплены як быццам... А побач — рэпрадукцыя падпольнай філатэлістычнай маркі з паміналам 75 зл.: Wilno — Polska (Fundusz Pomocy Kulturalnej dla Polaków na Kresach Wschodnich). І асцярожная лаянка за такі польскі анахранізм. Рэвізіянізм! Пра якое ж супрацоўніцтва гэтыя палякі могуць усур'ёз думаць, гледзячы так на нас?! Дэмакратамі сярод іх — у сапраўднасці — адзінкі.

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Язэп Янушкевіч — мінскі гісторык літаратуры;*

*— „Талакі" — „Талака", адна з групаў нефармалаў;*

*— СП БССР — Саюз пісьменнікаў Беларускай ССР;*

*— КДБ — Камітэт Дзяржаўнай Бяспекі, савецкая палітычная паліцыя і разведка;*

*— Петрашкевіч — Алесь Петрашкевіч, вядомы беларускі драматург і былы цэнтральны функцыянер партыі;*

*— Тжышкам — Зыгмунт Тжышка, выдатны польскі празаік, сябар беларускай культуры;*

*— Скарадзінскага — Багдан Скарадзінскі, аўтар нашумеўшай кніжкі „Białorusini, Litwini, Ukraińcy — nasi wrogowie czy bracia?", адзін з вядучых лідэраў польскага інтэлектуальнага падполля ў часы ваеннага становішча ў краіне; выступаў у нелегальным друку пад псеўданімам: Казімеж Падляскі.*

*— Джыма — Джэймз Дынглі, прафесар лонданскага універсітэта, гісторык Беларусі, старшыня Англа-Беларускага Таварыства.*

## ЗАПРАШЭННЕ

**Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку запрашае на спектакль гродзенскага кабарэ „Вернісаж", які адбудзецца 15 снежня г.г., а 17 гадз. у зале БГКТ на вул. Варшаўскай 11.**

**Кабарэ „Вернісаж" тройчы здабываў прызы на ўсесаюзных конкурсах. У праграме прадбачваецца таксама паказ моды.**

**Білеты можна купіць у БГКТ і ў рэдакцыі „Нівы".**

 

# ЛЕНІН ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЦЯГАМ

## АБО З „МАЛАНКАЮ” Ў АШМЯНАХ

Збор перад Бельскім домам культуры ў шэсць гадзін раніцы. Пагранічнікі ў Кузніцы будуць чакаць нас роўна ў дзевяць. Зразумела, пунктуальна выехаць не ўдалося, але ў палове на сёмую ўсе інструменты і ўборы ляжалі ўжо ззаду аўтобуса, а тыя, хто меўся ехаць, сядзелі ў мяккіх крэслах спераду.

Едзем на Гародзеншчыну, дзе ўжо трэці дзень працягваюцца Дні Беласточчыны. З нашага рэгіёна паехала туды многа вакальных, танцавальных, народных і сучасных калектываў, мастакі, журналісты. Сярод іх (як адзін з двух паказальнікаў беларускай культуры Беласточчыны; другі — калектыў з Дабрывады) ансамбль беларускай народнай песні „Маланка” з Бельска-Падляшскага.

„Маланцы” давялося выступаць у далёкіх Ашмянах. Як сказалі нам гаспадары, не адбылося гэта без іхняга ўплыву. Два гады таму назад на Беласточчыне пабываў ашмянскі хор „Крыніца”, даваў канцэрты ў Беластоку, Бельску, Гайнаўцы і Гарадку. Харыстам вельмі ў нас спадабалася, пасябравалі з „Васілёчкамі” і з іхнім кіраўніком Сяргеем Лукашуком. Сёлета трапілася нагода прыняць Сяргея Лукашука з яго новым калектывам у Ашмянах. Такім чынам, пад вечар 17 лістапада, апынуліся мы там з „Маланкай”. Прывітаў нас загадчык аддзела культуры Ашмянскага раёна сп. Спірыдонаў. Затым расквартаравалі нас у мясцовым гатэлі і пачаставалі абедам.

Пасля абеду паўтары гадзіны свабоднага часу, можна прыглядзецца бліжэй мястэчку. На першы пагляд — шэрае і нецікавае. Вечарам і ў дождж выглядае тым больш сумна. З Хрысцінай Вапай і Юркам Харкевічам заглянулі мы ў некалькі крамаў, зразумела, амаль пустых. Зайшлі ў касцёл, які ў адрозненні ад царквы, быў адчынены. Некалькі асоб маліліся ў вялікіх, без аніякага стылю сценах. Усе надпісы, у тым і распіска багаслужбы — па-польску. Хто тут прыхаджане, беларусы ці палякі? Касцёл, як і недалёкая царква, якраз рамантуюцца. Гэта і ёсць цэнтр Ашмянаў, усе вуліцы тут зыходзяцца, як бы вялі яны да святыняў.

Крышку далей ад цэнтра нашую ўвагу прыцягнуў яшчэ адзін будынак, без сумнення сядзіба мясцовых уладаў. Перад шматпавярховым домам, якіх у Ашмянах не так зноў і многа, стаіць помнік Леніну. А над яго галавою бел-чырвона-белы сцяг. Гэта, здаецца, найбольш сюррэалістычны вобраз у ашмянскім краявідзе. Па ўсяму відаць, што пазіцыі Леніна нішто там не пагражае, затое з беларускасцю бывае па-рознаму. Амаль ніводзін прадстаўнік гарадскіх ці раённых уладаў, з якімі мы спатыкаліся, не гаварыў па-беларуску. Таму вось і гэты сцяг выглядаў неяк мала рэальна.

Канцэрт „Маланкі” ў Гарадскім доме культуры пачаўся а гадзіне сёмай вечара. Даволі вялікая зала запоўнілася толькі ў палавіне, але прыём быў такі цёплы і сардэчны, што гэтага не заўважалася. Пасля цікавейшых песняў выканаўцы атрымоўвалі штораз больш кветак. Паколькі я сама не спявала (бо наогул не спяваю), а толькі вяла канцэрт, мая ацэнка зусім аб'ектыўная. „Маланка” выступіла сапраўды прыгожа, праспявала свае найлепшыя песні, вельмі спадабалася публіцы. А гэта ж была мэта паездкі.

Пасля канцэрта гаспадары запрасілі нас усіх на банкет. Прысутнічалі на ім мясцовыя ўлады, калектывы з Ашмянаў і ваколіц, іхнія кіраўнікі. Выступіла эстрадная група Ашмянскага дома культуры „Медуніца”, затым хор „Кракаўскі” з вёскі Кракаўка. Падымаліся тосты за дружбу і супрацоўніцтва. Радзіліся планы чарговых сустрэч і абмену мастацкімі калектывамі. Музыка і размовы не сціхалі амаль да раніцы.

А пакідаць Ашмяны давялося на другі дзень, яшчэ перад усходам сонца. Хацелася па дарозе завітаць яшчэ ў Гародню. Аднак на даўжэйшую, чымсьці двухгадзінную пабыўку, дазволіць сабе мы не маглі, бо апоўдні трэба было перасякаць мяжу назад. Гародня ў запаволены суботні ранак прывітала нас дажджом і чэргамі перад закрытымі яшчэ магазінамі. Хто пайшоў куды. Мы з Хрысцяй спачатку накіраваліся ў Гародзенскі універсітэт (думалі спаткаць каго знаёмага), потым зайшлі ў сабор, купілі пару кніжак, а на базары якуюсьці садавіну. За ўсё нашае блуканне сустрэлі мы толькі аднаго знаёмага, яшчэ з першага „Басовішча”, Слаўку Бугара. Стаяў на дажджы, прадаваў „Расейска-крыўскі слоўнік” і ... „Ніву”. Крышку пагаварылі і ўжо трэба было вяртацца. Забеглі яшчэ толькі ў краму з ласункамі, купіць пернікаў на дарогу. На нашу беларускую мову рэакцыя ў чарзе была такая: „Ну да, полячки купят, а своим гражданам не станет”. Але, відаць, не вельмі пашкадавалі нам гэтых салодкасцяў, бо адзін пернік два разы падаў у аўтобусе з полкі на падлогу і нічога яму не сталася. Каб даказаць нашым спадарожнікам, што ён не з гліны, прыйшлося яго з'есці. Напэўна з гліны не быў, бо смакаваў усім.



Пасля кожнай паездкі застаюцца нейкія ўражанні. На гэты раз, думаю, засталіся, усё ж такі, прыемныя. Трэба толькі мець надзею, што планы чарговых сустрэч будуць ажыццяўляцца і што нашае развітальнае: „да пабачэння ў Беластоцкім краі” не застанецца без водгуку.

**БАРБАРА КУЧЫНСКАЯ**
**Фота М. Ваўранюка**

****************************************************************************************




## Святы прападобны мучанік Макары Пінскі

Прападобны Макары Такарэўскі нарадзіўся ў канцы XVI стагоддзя ў горадзе Оўруч на Валыні. Ягоныя бацькі — мяшчане, былі адданы праваслаўнай веры. Старанную адукацыю прападобнамучанік атрымаў у парафіяльнай школе, а пазней у оўруцкім манастыры, дзе ён стаў манахам. Там святы Макары быў выбраны ігуменам. За час свайго ігуменства прападобны падняў узровень манастырскага жыцця. Аднак уніяты пры дапамозе польскага войска захапілі праваслаўны манастыр. Святы Макары быў вымушаны ехаць у Пінск. Там таксама стаў ігуменам манастыра. Праз пару гадоў прападобны змагаўся з націскамі уніятаў і католікаў. Не маючы ніякай падтрымкі, ён пераехаў у Канеўскі манастыр, дзе стаў яго архімандрытам.

Вядома нам, што перыяд архімандрыі прападобнага Макарыя даваў да развіцця рэлігійнага жыцця ў горадзе. 7 верасня 1678 года Канеў



быў заняты татарамі, а манастыр знішчаны захопнікамі. Святога Макарыя татары замучылі, калі ён маліўся да Госпада Бога за выратаванне жыхароў горада. Нятленнае цела прападобнага астаўшыеся ў жывых перанеслі і пахавалі ў манастырскай царкве.

Дзесяць гадоў пазней, у час рамонту царквы, была парушана магіла святога. 13 мая 1688 года царкоўныя ўлады, убачыўшы святасць прападобнага Макарыя, перанеслі Ягоныя мошчы ў Пераяслаў і пахавалі ў саборнай царкве. Варта адзначыць, што ад 1686 года епіскапы, якія наглядалі з боку Масквы за жыццём праваслаўных у Рэчыпаспалітай, афіцыйна атрымоўвалі назву пераяслаўскіх уладык.

Так за жыцця, як і пасля смерці, святы Макары быў у глыбокай пашане ў манаскім асяроддзі. Пры яго магіле адбываліся цудоўныя здарэнні. Між іншымі, у 1742 годзе палкоўнік царскага войска Глебаў, молячыся пры мошчах святога, выздаравеў ад паралiча... Адданасць праваслаўю і перададзена прападобным Макарыем Божая воля, а таксама пакутніцкая смерць за Хрыстовую веру, прывялі яго ў сабор святых. Царква кананізавала Макарыя Пінскага, а памяць яго ўшаноўваецца 7 верасня і 13 мая.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**



### У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

**Чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ адбылося 24 лістапада 1991 года. Першае пытанне, якое ставілася на разгляд — гэта кадравыя справы. Міністэрства культуры і мастацтва, якое спансаруе дзейнасць БГКТ, у датацыі не прадбачвае зарплатнага фонду для адміністрацыі. У такой сітуацыі трэба зрэфармаваць сетку штатаў у Таварыстве з мэтай змяншэння колькасці працоўных і лепшага іх выкарыстання.**

**Прэзідыум ГП заслухаў інфармацыю аб падрыхтоўцы да друку „Беларускага календара на 1992 г”. Была выказана занепакоенасць з прычыны магчымага парушэння тэрміну выхаду з друку гэтага выдання. Вырашана рабіць намаганні, каб каляндар з'явіўся ў продажы ў канцы снежня. Каляндар выйдзе тыражом 4500 экземпляраў і будзе каштаваць 10.000 зл.**

**Новыя штатныя кіраўнікі БГКТ — намеснік старшыні Янка Сычэўскі і сакратар Валянціна Ласкевіч паінфармавалі аб сваёй дзейнасці за апошні месяц. Прынялі яны ўдзел у канферэнцыях таварыстваў культуры ў Бжэгу і настаўнікаў беларускай мовы ў Бельску, наведалі гурткі ў Рыбалах, Канюках, Ляўкове, Меляшках і Гарадку, вялі размовы з прадстаўнікамі Кураторыі асветы і выхавання, Асяродка ўдасканальвання настаўнікаў, сустрэліся з дэлегацыямі Беларускага таварыства „Радзіма” і Беларускага фонду культуры.**

**У сувязі з тым, што Рада беларускіх арганізацый ігнаруе ўсе прапановы Таварыства, было прынята рашэнне аб выхадзе БГКТ з РБА.**

 

## ПА-ЗА НАЯЎНАСЦЮ

Толькі што закончылася выстаўка (тэкст пісаны ў сакавіку 1991 г. — рэд.) новых карцін Лёніка Тарасэвіча. На вернісажы натоўп тых, што прыйшлі зразумець унутраны Лёнікавы свет, і тых, што проста знайшліся, каб адзначыць сваю прыналежнасць да „інтэлектуальнай эліты беластоцкай метраполіі". Гэтых другіх — прыгнятальная большасць.

Які ж ён ёсць, гэты „па-свойску" адкрыты і шчыры ў непасрэдных кантактах, але так недаступны ў сваім мастацтве, Лёнік? Відавочныя былі разгубленасць і збянтэжанасць на тварах тых, што натхнёна імкнуліся раскрыць падабенства бачанага з тыповымі пейзажамі Валілаў, не адну копію якіх знойдзем і ў іншых месцах Беласточчыны.

Чаргowы раз Лёнік ускалыхнуў густ гледача, здольнасць успрымання якога затрымалася на ўзроўні імпрэсіянізму, што сваёй пастэльнасцю і салодкасцю лагодзіць змрочныя будні жыцця. Лёнік пазбаўляе ўпэўненасці нават тых, хто паспеў змірыцца з думкаю, што мастацтва даўно адраклося ад апавядальнасці і ў пошуках новых формаў забрыло ў свет абсурду.

Лёнік — традыцыяналіст. Ён не памяняў колеру на матэрыю, а пэндзліка на малаток. Мастак застаўся верны колеру. І гэта, бадай, адзінае яго веравызнанне ў жывапісе. Калі паяўляюцца яшчэ нейкія сюжэтныя асацыяцыі, дык гэта ўжо не зусім Лёнік. Гэта глядач дапявае ягоны матыў.

Выстаўку я назваў бы „Шока-тэрапіяй". Лёнік бескампрамісна разбурае паштовачна-альбомную адукаванасць гледача, падручнікавае разуменне колеру. Бялагічна-жывы зялёны і напорыста-едкі жоўты. Яны ўперамешку запаўняюць вялікамаштабныя палотны, нярэдка ігнаруючы дынамічныя пункты ахопленай імі прасторы.

Колеры даюць пробліск яго ўнутрана-інтуітыўнага свету, поўнае выяўленне якога патрабуе шматлікіх спробаў і пошукаў, усё новага падыходу. Гэтым разам мастак заяўляе, што калі на шляху яго інтуітыўных імпульсаў стануць догмы, ён без хістання аб'явіць догмам бітву. У імя захавання самога сябе, у імя ўласнай мастацкай праўды. Гэта можа дазволіць сабе не абы-хто. Можа дазволіць мастак з геніяльным — або, яшчэ больш радыкальна кажучы — з біяла-гічным адчуваннем колеру.

Лёніка немагчыма зразумець, як немагчыма зразумець прыроду, аналізуючы яе бачну наяўнасць — пейзаж. Яго трэба адчуваць. На імпульсна-інтуітыўнае адказваць імпульсна-інтуітыўным. Гэта трывае толькі міг. Але яго дастаткова, каб адчуць веліч гармоніі паміж унутрана-ўласным і Лёнікавым, паміж пачуццём, колерам і формай.

**ВІКТАР СТАХВЮК**

ЯЛАНТА БРАХ-ЧАІНА

# ТАРАСЭВІЧ

**(Пачатак у 48 нумары)**

Пяройдзем у наступны круг значэнняў жывапісу Тарасэвіча, да значэнняў, звязаных з ваганнем карцін між абстрактным і рэалістычным выяўленнямі. Стварэнне напружанасці між абстрактнасцю і рэалізмам належыць да найбольш характэрных і важкіх рысаў гэтага жывапісу. Назіральнік уваходзіць адначасова ў абодва абшары, таму што не ў змозе ўлавіць мяжу між чыстай нефігуральнай кампазіцыяй і магчымасцю распазнаць рэальны прадмет.

Што такое рэалізм? Тое, што дае першынство таму, што навонкі нас. Падпарадкаванне таму, што сустрэтае, застанае, незалежнае, аб'ектыўнае. Прызнанне переваг і вонкаваму свету. Што такое абстракцыя? Прызнанне першынства суб'ектыўнасці, нашым ідэям, уражанням, нашаму бачанню свету. Воля праяўляць свае схільнасці ў тварэнні. Але таксама і спроба пошукаў сінтэтычнага выяўлення, якое паказвае спасцераганую сутнасць рэчаў.

Калі рэалізм дае першынство вонкаваму свету, якім у мастацтве Тарасэвіча з'яўляецца прырода, то абстрактнае выяўленне дазваляе дамінаваць свету ўнутранаму. Увага адводзіцца таму, хто глядзіць, адчувае, ствapae. Хто паўстае перад светам, у гэтым выпадку, перад прыродай. Абстрактны характар выяўлення дазваляе Тарасэвічу выказваць ідэі болей агульныя за тыя, якія дапускае рэалістычны жывапіс. На гэтых карцінах паказана не столькі сама прырода, колькі сустрэча з ёю, як нейкая агульнейшая ідэя. Каб вылавіць тое, што ў гэтым сутыкненні найважнае.

*У ліцэі і ў Акадэміі, асабліва ў ліцэі (у Супраслі), я рабіў шмат накідаў з натуры. Зараз больш за ўсё хаджу і назіраю пейзаж, часам раблю хуткую занатоўку фотаапаратам. Занатоўваю не матыў, які пасля малюю, а фрагмент нейкай з'явы.* 3

На карцінах Тарасэвіча часам захоўваецца толькі сама арганічнасць прадмета, хоць назіральнік і не ў змозе разгадаць, што гэта за прадмет. Такое бачым, напрыклад, у некаторых „амерыканскіх пейзажах", дзе эфект арганічнасці даюць тоненькія пасмачкі абцёклай фарбы. Не раз несумненным з'яўляецца толькі ўражанне прыналежнасці аб'екта да свету прыроды, хоць цяжка ўказаць канкрэтную прадметную суаднесенасць. Глядач уцягваецца ў гульню здогадаў, але ведае, што ўявлі яго ў бачанне натуры, у зносіны з ёю, часам зведзеныя да чыстага рытму, лёгка парушаная сіметрычнасць якога вяртае думкі ад штучнасці да натуральнасці.

*Стараюся быць з натурай і з тым усім, з чаго я пачаўся.* 1

Найлепшыя карціны Тарасэвіча трымаюцца якраз гэтай вузкай мяжы між рэалізмам і абстракцыяй. Астатнія адхіляюцца ў адзін альбо другі бок абапал гэтае мяжы. Гэтую сярэдзіну ён схоплівае найчасцей, калі прадстаўляе святло і лес. Палосы. Амаль раўналеглыя, альбо парэзаныя трохкутнай перспектывай. Вядуць у самы цэнтр нашага спаткання з прыродай, калі яскравае сонечнае святло між сасновымі камлямі б'е ў вока гледача, альбо калі абрысоўвае іхнія формы ў зімовай начной святлыні.

*Адна з найважных рэчаў — гэта якраз (...) знайсці тую ідэю, якую маеш, якую робіш.* 1

Карціны Тарасэвіча вылучаюцца сваімі вялікімі памерамі. Памеры карцін — гэта ўлічаны ў тэму сродак экспрэсіўнасці. Глядач стаіць перад вялізнай сцяною, якая магла б быць сцяною лесу, сузіранага з ускраіны, навонкі, не прапускаючага позірку ўглыб. Карціна, плоска распасцёртая, разлеглая, паказвае паверхню, пра



*Работы Д. Наша і А. Тарасэвіча ў Ikon Gallery ў Бірмінгеме ( 1985 г. ).*

*****************************************************************

# КАЛІ Б БЫЛА ЗАВІРУХА

**Юстын Пракаповіч у 1946 годзе пераехаў з сям'ёю ў Польшчу. Зараз жыве ў Беластоку. Нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Кучкуны (раён Стоўбцы), у гэтак званай Заходняй Беларусі.**

Бацька мой гаспадарку меў — 18 гектараў зямлі, а да гэтага яшчэ працаваў гаёвым у дзяржаўных лясах. У трыццаць сёмым яго звольнілі з гэтай працы — за беларушчыну, ён усюды „пісаўся" беларусам (...) Раней, ад чатырнаццатага да шаснаццатага года бацька быў на вайне, у царскім войску, быў там ранены. Меў званне фельдфебеля, значыць старшага сяржанта. У 1920, пасля польска-бальшавіцкай вайны, беларусы памкнуліся здабыць незалежнасць. І бацька ж мой там апынуўся, сярод случчакоў. Дый не адзін ён — з вёскі болей пайшло. Саветы іх пабілі, Польшча ж ні ў чым не дапамагла, хоць абяцала. Яны адступілі на польскі бок, дзе іх і разброілі. Майму бацьку ўдалося тое, што стаў на працу ў лесе. Калі ў 1939 прыйшлі саветы, бацька хаваўся — такіх як ён шукалі. Была гэта для нас першая прычына, каб адтуль выбіцц. І гэтае ўдалося. Брат мой быў у польскім войску, у людовым, якое сфармавалася ў Савецкім Саюзе. Ён стаў вайсковым пасяленцам у Польшчы ды прыслаў нам такое патрабаванне, на падставе якога ўся наша сям'я пераехала ў Польшчу — спярша жылі ў Зялёнагурскім, потым у Алецку, што ў Сувальскім ваяводстве, а нарэшце аселі ў Беластоку. Тут памёр мой бацька, у 1971 годзе. Вось такі ягоны лёс.

Да другое вайны вучыўся я ў пачатковай школе. Да трыццаць дзевятага паспеў я перайсці ў сёмы клас, а калі прыйшлі саветы, дык з сёмага адсадзілі нас у пяты. Вось, з апавяданняў бацькоў, памятаецца мне яшчэ адно. У дваццатыя гады ў нашай вёсцы, як і ў суседніх, пасілены быў вызваленчы рух. Польская ж улада глядзела на гэта не вельмі прыхільна. У дваццатыя гады ў нашай вёсцы з'явіўся карны атрад, была назначана паліцэйская гадзіна — ад восьмай вечара да шостай раніцы. Справай гэтай пацікавіліся беларускія паслы ў польскім Сейме, якія прыехалі на месца, каб разгледзецца ў сітуацыі. Пасля іхніх захадаў карны атрад выйшаў з вёскі (...) У дваццаць шостым, ці сёмым, так расказвалі, у вёску стаў прыязджаць нейкі уніят, які арганізаваў беларускае культурнае жыццё. На уніяцкую веру ніхто ў вёсцы не перайшоў — насельніцтва было праваслаўнае, ну, былі і каталікі, але ўсе як беларусы, як патрыёты... Беларускае культурнае жыццё арганізавалася ў рамках Звёнзку вясковай моладзі, польскай арганізацыі. Быў, здаецца, яшчэ нейкі камуністычны звяз, але я быў тады надта ж малады, каб у гэтым разабрацца. Першым арганізатарам беларускага культурнага жыцця быў гэты уніяцкі ксёндз. Часта даходзіла да спрэчак паміж ім і праваслаўнымі бацюшкамі. Бацюшкі называлі яго ваўком у авечай шкуры. А уніят, што ж, прыязджаў, гаварыў па-беларуску, арганізаваў тэатр, ставіліся беларускія сцэнкі... Як сягоння памятаю: „Паўлінка", „Модны шляхцюк", „Птушка шчасця". Памятаю, што самых беларускіх сцэнак нельга было ставіць — трэба было ў пары з польскай, дык моладзь дабірала так, каб адну або дзве дзеі па-польску, абы хутчэй, а пасля цэлую беларускую п'есу. На гэтыя сцэнкі ды іншыя забавы прыязджала, бадай, паўнавету. Шмат хто з вёскі выпісваў беларускія газеты: „Шлях моладзі", „Самапомач" і „Хрысціянская думка". „Хрысціянскую думку" выпускалі ксяндзы, уніяты, Адам

глыбіню нам трэба здагадвацца. Таксама, калі кампазіцыя сваімі матывамі нагадвае лугі альбо гоні, карціна, запоўненая па беразі рытмічным паўторам аднаго матыву, стварае ўражанне выразанай з нейкай велізарнай цэласці, якой не відаць. Стаім толькі перад фрагментам, але і ён нас перавышае. Такія адносіны да прыроды — галоўнае пасланне жывапісу Тарасэвіча. Прырода вялікая. Чалавек малы. Карціна дае гледачу адчуванне ягонай „невялікасці". Калі на выстаўках, як гэта ўжо часам здаралася, карціны павешаны ў месцах для іх зацесных, тады назіранне прабегу нейкага матыву змушае нас не толькі перасоўваць позірк, але і паварочваць галаву. Гэты эфект садзейнічае мастацкаму пасланню паконт таго, якая павінна быць пастава чалавека перад натурай, звяртаючы ўвагу на сапраўдную суаднесенасць між імі.

*Я выхаваўся на вёсцы, увесь час меў кантакт з прыродай.*3

Калі ў адносінах да карцін Тарасэвіча можна гаварыць аб сакралізацыі натуры, то трэба памятаць, што сама натура не выглядае лагоднай, а яе вялікая каштоўнасць выяўлена на іх канфліктна, драматычна. Мастак не імкнецца ствараць клімат пакорлівага захаплення. У гэтым спатканні ўжо няма лагоды. Справы павярнуліся такім, менавіта, чынам. Павялічаныя і сінтэзаваныя фрагменты прыроды, кіданыя на палатно рэзкімі колерамі і рэзкімі мазкамі, усведамляюць нам, што гвалтоўныя і сама натура, і чалавек у дачыненнях з ёю. Гэта стан канфрантацыі. Усведамленне канфлікту, а нават змагання, становіцца яшчэ больш выразнае на тых карцінах, што набліжаюцца да формаў рэалістычнага выяўлення — дрэвы ў лесе з пастаўленымі на ствалах нумарамі. Тыя карціны, што не прыгадваюць нам пра ўчыненыя чалавекам знішчэнні, а толькі чыстай арганічнасцю формаў і рытмаў выклікаюць прысутнасць прыроды, гвалтоўнай сваёй экспрэсіўнасцю даводзяць да свядомасці, што гэта не



*У майстэрні ў Валілах.* **Фота Я. Максімюка.**

тая прырода, якую можна было б пеставаць. Змаганне працягваецца.

Тарасэвіч явіцца жывапісцам, які ведае адно гвалтоўныя пачуцці, без сентыментальнасці. Калі на карцінах між камлямі дрэваў праходзіць святло, то святло гэтае рэжа вочы, блішчыць, іскрыцца. А калі ў вочы не коле, то маем дачыненне з рэфлексамі святла на вадзе, маляванымі над морам у Швецыі. Ці Тарасэвіча можа кранаць за жывое Балтыка каля Швецыі? А лес у Валілах — можа. Адгэтуль і серыя карцін лесу, на якіх пазначаныя нумарамі дрэвы. Палічаныя. Палосы стваловў у згушчанай, цяжкой карычневасці. Тэма наступу чалавека на прыроду раскрытая тут яўна. Відаць, на які бок хіліцца жалюгодная перамога, хоць не вядома: часовая яна ці трывалая? Як бы там ні было, думка пра пераможны бок наводзіць нас па тое, чаго ў карцінах Тарасэвіча няма. Няма чалавека. Магчыма, ён не варты таго, каб яго маляваць. Тарасэвіч ніколі не малюе людзей, калі не лічыць практыкаванняў з Мастацкага ліцэя ў Супраслі і з варшаўскай Акадэміі мастацтваў.

Згаданы вышэй недахоп — хоць ён і не тоесны з поўнай непрысутнасцю, бо ж адзначаны знішчальныя наступствы чалавечай дзейнасці — пацвярджае, як здаецца, прад-стаўленую іерархію вартасцяў: вялікая прырода і малы чалавек. Чалавек перад лесам не болей, чым караед. Караедаў мастак таксама не малюе, хоць вядома, што і яны могуць чыніць вялікае спусташэнне, аднак жа партрэтаваць іх — нявартa. І хоць жывапіс Тарасэвіча выяўляе спатканне і канфрантацыю чалавека з прыродай, ёй адной толькі прыпісана сапраўдная годнасць і, магчыма, вечнасць, нягледзячы на тое, што з увагі на чалавека гэта не дужа пэўнае. У кожным выпадку, іерархія вартасцяў мусіць быць захаваная. Як на іконах, дзе ёсць места для Бога, анёлаў і святых, але не для чалавека, які, аднак жа, стоячы перад абразом, знаходзіць сваё месца ў выяўленым свеце, што яго перавышае. На карцінах Тарасэвіча светам вышэйшым паўстае прырода.

*Я, выхаваны тут, у іншым светаадчуванні, заражаны Усходам, вартасцямі Праваслаўя... з гэтага вынікаюць іншыя адносіны да рэчаіснасці, да навакольнага свету.*3

*Пераклаў з польскай мовы*
**ЯН МАКСІМЮК**

1. Leon Tarasewicz (Rozmowy z artystą), Przegląd Powszechny, nr 7/8, 1986.

2. Leon Tarasewicz, „Nie wiem, co to natchnienie", Gazeta Współczesna, nr 268, 18.11.1988 (Wywiad. Rozmawiała Olga Pacewicz).

3. Leon Tarasewicz, „Jestem zarażony Wschodem", Plus, nr 13, 8.12.1990 (Wywiad. Rozmawiał Andrzej Kisielewski).

***

Станкевіч... Адама Станкевіча я ніколі не бачыў, але паводле таго, што пісаў у газеце, то я паважаў яго нароўні са сваім бацькам...

Калі толькі прыйшлі немцы, то можна сказаць, што была свабода і парадак. Немцы ўвялі свае падаткі, але людзі хутка пабачылі, што іхнія падаткі — гэта палова таго, што трэба было плаціць саветам. Палонныя, якія засталіся пасля адступлення саветаў, сталі на працу ў гаспадароў. Так-сяк было свабодна... Да немцаў ніхто нічога не меў і яны да нас не мелі. Калі аднак пачалі ліквідаваць яўрэяў — насельніцтва пачало ставіцца да іх варожа. Да таго ж немцы пачалі забіраць ад гаспадароў палонных ды вывозіць іх на працу ў Нямеччыну — частка гэтых палонных уцякла ў лес ды пачынала партызаніць (...) За нямецкай акупацыі закончыў я сёмы клас ды здаў экзамен у гімназію, але хадзіць у яе не хадзіў. Навука ў ёй мела для мяне пачацца першага верасня сорак другога. Бацька мой, памятаю, сказаў мне тады: „Першыя два-тры дні нічога новага вучыцца там не будзеце, дык памажы мне ў гаспадарцы". Я стаў баранаваць засеянае поле. Тую моладзь, якая пайшла на пачатак навучальнага года, немцы забралі на працу ў Нямеччыне. І я туды трапіў бы...

Немцы забаранілі ксяндзам гаварыць навуку на польскай мове. Ксяндзы былі найчасцей з Цэнтральнай Польшчы, дык па-беларуску не ўмелі. Служыць ім можна было, але без пропаведзі. Кожнага аднаго, які не паслухаўся ды пачынаў па-польску, палітычна, ці не-палітычна, пасля пару дзён не было.

Эх, варта згадаць, які парадак і якая дысцыплінаванасць была ў школе ў той час. Урокі пачыналіся ды завяршаліся малітвай, зразумела ж, беларускай. Калі настаўнік уваходзіў у клас, усе ўставалі з месцаў, затым настаўнік рабіў во так... ды казаў „Жыве Беларусь!", а ўсе мы



рабілі такі сам жэст ды адказвалі „Жыве!" Навучанне ўсіх прадметаў ішло на беларускай мове. Абавязковым прадметам, як то пад акупацыяй, была нямецкая мова, дзве гадзіны ў дзень.

У сорак трэцім была мабілізацыя. Восем „рочнікаў" пайшло ў войска, у Беларускую краёвую абарону. Не было выпадку, каб нехта дээерціраваў. Калі нехта быў раней у польскім войску капралам, то давалі яму, прыкладна, падпаручніка, калі хто ў царскім — таксама ўзвышалі, тое ж самае для слуцкіх паўстанцаў, не прызнавалі адно званняў з савецкага войска. Беларускае войска ды ягоныя афіцэры толькі чакалі, калі пачне тварыцца нейкая завіруха — усе былі гатовы змагацца за самастойнасць свайго краю, усе да аднаго пайшлі б, усё, здаецца, дзеля гэтага было падрыхтавана... І калі б не тое, што немцы загадзя сталі перакідаць беларускія фармацыі на заходні фронт...

Усё не магу забыць пра адно здарэнне, калі ў сорак чацвертым адступалі немцы. Забралі яны тады коней у майго бацькі. Нейкі час пасля гэтага прыходзіць бацька ды кажа мне, каб я пайшоў за вёску на дарогу, бо адтуль людзі забіраюць коней, якіх пакінулі немцы. Выбягаю я за вёску, аж тут заступае мне дарогу нямецкі афіцэр. З ім то я й згаварыўся па-нямецку, але не кажу ўжо чаго шукаю, толькі што ўцякаю ад саветаў, што хачу да свайго брата, які ў горадзе на чыгунцы працуе. „Добра,- кажа той, паляпаўшы мяне-, бяжы хутчэй, бо тут зараз прыдуць саветы і ніколі не знойдзеш свайго брата". Ну то я нейкі кіламетр гэтай дарогай, а потым паўкругам вяртаюся ў вёску. Бачу — саветы, людзі ім сказалі, што ўжо два дні, як няма немцаў. Бягу, махаю ім. Спыняюцца грузавікі і танкі. Я кажу, што тут немцы, што ад іх вяртаюся. Павялі ў кватэру, дзе мяне абступілі афіцэры. Кожны пра нешта дапытвае, каму тут адказваць?. „Усім"- крычыць адзін. Я стаў паказваць на карце, дзе немцы. „Адкуль ты ўмееш чытаць ваенную карту?"- ізноў крычаць. Перадалі па радыё, што злавілі нямецкага разведчыка. Прыйшоў загад здабыць нямецкую абарону. Пасадзілі мяне на танк: „Паказвай нам дарогу, зварухнешся — здымем, канец з табою". Пасадзілі спераду, пад арматай. У мяне не трэба было тады страляць, мяне каменем можна было прыкончыць. Выязджаем за вёску, усе за танкамі пахаваліся, я адзін спераду. Танк спыняецца, чую зварухнулася армата — будзе выстрал. Затыкаю вушы, як немцы нас у школе вучылі. Але ж, нейкую секунду-дзве раней, метраў пяцьдзесят перада мною ўзрываецца фантан зямлі. Немцы выстаралілі першыя. Саветы давай адступацца. Я нырнуў у равок ля дарогі і гэтым раўком дапоўз да вёскі. Вось такі прыклад, як мяне патрактаваў вораг і той, хто прыяцелем завецца. Цяжка гэта зразумець, але ж гэткая праўда.

Прайшла вайна ды трэба было пакінуць бацькаўшчыну, бо такая сітуацыя пачала складацца, што гнаіў бы зямлю недзе ў Сібіры, няйначай.

Запісаў
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# АДРАДЗІЦЬ БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

*— Янка, я цябе ведаю як чалавека, якога заўсёды цягнула да сцэны. Ці мог бы ты расказаць пра тое, як да гэтай сцэны ты даходзіў, а нарэшце ужо пагаворым пра тое, чым зараз займаешся.*

**Янка Мордань:** Добра. Было гэта, здаецца, у 1983 годзе, калі мы з табою ўпершыню сустрэліся. Было гэта ў Гайнаўскім доме культуры — працаваў я там інструктарам па арганізацыі культурных мера-прыемстваў. Мяне нейк заўсёды цягнула да жывога слова — надоўга да таго, як я стаў на працу ў ГДК. Заўважыў гэта дырэктар Мікалай Бушко, які як першы падштурхнуў мяне да дзейнасці на гэтай ніве. Слухай, кажа мне, у мяне такая і такая праца, падумай, дай адказ. Заходжу я да яго, а ён без лішніх уводзінаў кажа: паедзеш на тэатральныя варштаты. Добра, але ж я не сказаў яшчэ, ці хачу працаваць. Ведаеш, кажа мне, я ўжо аплаціў твой курс — мусіш паехаць. І так, апынуўся я ў Тыкоціне на тэатральных варштатах, дзе пазнаваў азбуку гэтай „прафесіі". Там менавіта я канчаткова пераканаўся да тэатральнай самадзейнасці. Пазней намагаўся я ў Гайнаўцы стварыць групу моладзі, у якой, між іншым, і ты быў, але, як ведаем, нічога з гэтага не выйшла. Я пераехаў жыць у Бельск-Падляшскі, дзе таксама стараўся сабраць моладзь вакол сваёй ідэі. Прайшоў недзе год часу і мне ўдалося стварыць групу. Быў гэта канец 1985 года.

*— Адкуль узялася тая моладзь?*

**Я. Мордань:** Я скажу па прозвішчах:Ніна Грыгарук (выпускніца беларускага ліцэя), Дарыюш Фёнік (сельска-гаспадарчы тэхнікум), Марак Тапалеўскі (беларускі ліцэй), Яраслаў Іванюк (беларускі ліцэй), Славік Філіпюк (механічны ліцэй), Лена Швед (медыцынскі ліцэй), Андрэй Гаўрылюк (карэспандэнт „Нівы"), Славік Міткоўскі (выпускнік беларускага ліцэя) ды яшчэ некалькі чалавек, прозвішчаў якіх ужо не прыгадаю. Была гэта першая група гэтак званага „Парнасу", у якім займаліся мы беларускім жывым словам. На пачатак узялі мы пастаноўку „Роднае", на аснове твораў „белавежцаў" — перад імі самімі і выступілі. Прыгадваецца, што пахваліў нас тады сам Ян Чыквін. З гэтага часу „Парнас" дзейнічаў праз пяць гадоў — да групы пачынальнікаў паступова далучаліся новыя людзі з бельскіх і гайнаўскіх сярэдніх школаў. У той час удалося нам зрабіць пастаноўку „Вясёлыя жабракі" — бадай ці не найбольшае нашае дасягненне. Выступалі мы з ёю на Сейміку вясковых тэатраў у Сядлецкім ваяводстве. Самае важнае аднак тое, што моладзь задумала тады арганізаваць вандроўкі вучняў, на якіх паказвалі мы беларускае сцэнічнае слова. У час вандровак я пераканаўся, што можна ўсё-такі адрадзіць беларускае слова, але не бюракратычнымі метадамі. Адраджэнне гэтае дае найлепшы вынік, калі прыносіць яно задавальненне і для таго, хто выступае, і для таго, хто слухае. „Парнасцы" кожнае лета арганізавалі дзве вандроўкі — на пачатку і на канец канікулаў. Прайшлі мы дзесяткі вёсак ды ў кожнай нешта паказалі на беларускай народнай мове.

*— Як людзі ўспрымалі вашы выступленні?*

**Я. Мордань:** Раскажу адзін выпадак. Невялічкай групкай ішлі мы па дне Семяноўскага заліву. Былі там яшчэ рэшткі вёскі Лука. Мы падышлі да калодзежа, каб напіцца. Былі там дзядулі і бабулі, якія развіталіся са сваімі сялібамі. Завялі мы з імі размову. Томак Тапалеўскі меў якраз верш Алега Мінкіна „Дуда" — неяк склалася, што атрымаўся канцэрцік. Томак пазней успамінаў, што там якраз яму найлепш выступалася, бо калі ён дэкламаваў верш Мінкіна, бабулі плакалі. Што ж, публіка бывала розная — часам як на мітынгу, а часам тры-чатыры асобы.

*— „Парнас" спыніў сваю дзейнасць вясною гэтага года. Не заглыбляймася тут у прычыны. Для мяне ясна, што людзі пасталелі ды змогуць самастойна развіваць свае зацікаўленні, ці кар'еры. Скажы мне, чым зараз займаешся, а інакш кажучы, што адбываецца на Варшаўскай 11 кожнае серады паміж 17-ай і 20-ай?*

**Я. Мордань:** Вясною пасяліўся я ў Рыбалах ды задумаўся, што тут зрабіць, каб і надалей падтрымліваць у сабе ахвоту займацца беларускім сцэнічным словам. Падумалася мне, што варта было б стварыць групу моладзі ў Беластоку. Дзеля гэтага арганізаваў я летам вандроўку менскага тэатра жывога слова па Беласточчыне. У вандроўцы ўдзельнічала некалькі хлопцаў з Беласточчыны і яны зараз прыходзяць на заняткі ў будынку ГП БГКТ на Варшаўскай. Пакуль што, забаўляемся беларускім словам, вучымся выходзіць на сцэну, прадстаўляць. Маем ужо намер зрабіць пастаноўку... але аб гэтым яшчэ нічога не скажу. Не хачу быць дурнейшым за курыцу, бо тая тады кудахкае, калі яйка знясе. Найлепш напішы так: кожны, хто хоча адчуваць сябе маладым, хто хоча нешта ствараць, няхай прыходзіць кожнае серады ў памяшканне ГП БГКТ на 17-ую гадзіну.

*— Дзякую за размову.*

Гутарыў

АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК

Фота аўтара



****************************************

# ПАРТРЭТЫ ЗВЯРОЎ

У лістападзе г.г.(шкада крыху, што пасля турысцкага сезона) у Белавежы паявілася ў продажы нетыповая, арыгінальная серыя паштовак (16 штук) з малюнкамі лясных звяроў, якіх можна сустрэць у Белавежскай пушчы. Звярыныя партрэты выйшлі з-пад чарцёжнага пяра маладога мастака Лешка З. Навацкага. Серыю выпусціў Белавежскі нацыянальны парк тыражом па 9.400 штук кожнага малюнка. Ёсць намеры паўтарыць серыю ў іншым каларытні і больш цікавым варыянце, магчыма ўжо ў найбліжэйшы турысцкі сезон.

А цяпер некалькі слоў аб аўтары малюнкаў, з якога працамі, мабыць, будзем сустракацца часцей. Лешак З. Навацкі — унук славутага белавежскага ляснічага-зубрагадавальніка і расказчыка, Яна Патокі (1900 -1965). Маці яго, Мар'я, вядомая на Гайнаўшчыне аўтарка шматлікіх геадэзійных планаў і таленавітая...гафтавальшчыца. Лешак Навацкі з'яўляецца выпускніком Інстытута мастацкага выхавання Універсітэта Мар'і Кюры-Складоўскай у Любліне (1987). Займаецца ён разьбой, жывапісам і графікай. Свае працы паказваў на калектыўных выстаўках у Любліне, Варшаве і Жэшаве. Пасля заканчэння інстытута працаваў настаўнікам у Агульнаадукацыйным ліцэі ў Тамашове-Любэльскім і інструктарам у мясцовым Доме культуры. Чатырох яго выхаванцаў прынялі ў вышэйшыя школы на аддзяленні мастацтва і гісторыі мастацтва, а адзін з іх „алімпіец". Сёлета Л.З. Навацкі пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Белавежу і пачаў працаваць у выдавецкім аддзяленні



Белавежскага нацыянальнага парка. На пачатак апрацаваў вокладку кніжкі праф. А.У. Сакалоўскага аб захоўваемых прыродазнаўчых аб'ектах на Беласточчыне, затым выпусціў серыю паштовак. Афармляе таксама графічна новы часопіс „Parki Narodowe".

А вось адна з паштовак са „звярынай серыі" Л.З. Навацкага.

ПЁТР БАЙКО

# ПАСЛЯВЫБАРЧЫЯ ЛАСТАЎКІ

27 кастрычніка 1991 г., пасля звыш 45-гадовай няволі, грамадства нашай краіны абвешчана вольным, незалежным, самастойным. Як жа больш бяспечна адчувае сябе чалавек у вольнай, а значыць у сваёй, у рэшце рэшт, дзяржаве. Проста з дня на дзень перастаеш быць прадметам, а становішся вартасцю. Ніхто цябе ўжо не абразіць нават калі ты „нацмен", ніхто не асмеліцца абмяжоўваць тваіх правоў. Не то, што пры камуністах, якія дзьмулі ў прапагандаву трубу аб „пралетарыях усіх краін", а націху меншых братоў-пралетараў абдурвалі. Цьфу паганыя іх душы, пранікшыя хлусьнёй і фальшам. Цяпер такога і быць не можа! У сваіх першых вольных выбарах народ галасаваў за найлепшых з найлепшых: за дэмакратаў — змагароў за правы чалавека. Цяпер, грамадзянін, спі спакойна! Дух камуны знікнуў. Знікнуў!?

23 лістапада 1991 года, а 11.30, у першай праграме польскага радыё пачалася перадача: „Невядомыя суседзі". На пытанні журналісткі адказвалі прадстаўнікі правых партый — нававыбраныя паслы. На пытанне, ці не лепш было б, каб нацыянальным меншасцям былі загадзя адведзены месцы ў парламенце, прадстаўнік Паразумення „Цэнтрум" адказаў, што месца меншасцяў у рэгіёнах. Хай там сабе яны ствараюць імідж. Адкуль мы гэта ведаем? Як адкуль. Ад саракапяцігоддзя. Ад будаўнічых „светлай будучыні", для якіх беларуская, ці іншая меншасць у Польшчы — проста фальклорная рэзервацыя. З еўрапейскага пункту гледжання ў дыскусіі выказаўся Кшыштоф Круль з Канфедэрацыі незалежнай Польшчы. Сцвердзіў ён, што Польшча падпісала і ратыфікавала шэраг юрыдычных актаў аб нацыянальных меншасцях. Хоціць выконваць прынятыя абавязацельствы. І мы якраз за гэта.

Затое, лідэр Уніі палітыкі рэальнай Януш Корвін-Міккэ заявіў, што для іх нацыянальныя меншасці не існуюць увогуле. Вось калі ўзрадаваўся дух старога бальшавізму: „Жыву, маўляў, пакуль усе мы дзеці Сталіна". А каб было яшчэ смяшней, ён спытаўся рантам: — А што гэта такое беларуская партыя?!

Мы, праз далікатнасць, не будзем пытаць Я. Корвіна-Міккэ, ці паводле яго, так як і мы, не існуе польская нацыянальная меншасць у Літве, Беларусі і Украіне. Адкажам толькі, што беларуская партыя (БДА) у адрозненне ад ягонай Уніі палітыкі рэальнай, нягледзячы на намаганні, не здабыла ніводнага парламенцкага мандату. Тым не менш, створаны перш за ўсё ёю Беларускі выбарчы камітэт споўніў сваю ролю: выдатна спрычыніўся да выхаду беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы з рэгіянальнага запаведніка. У дзесятках цэнтральных радыё- і тэлеперадач мы наблізілі грамадству свае справы. Дзякуючы ім беларусы заіснавалі ў краіне. Частка нашага народа сталася ўрэшце часткай грамадскай свядомасці краіны.

А прадстаўніку „Цэнтрум" пры нагодзе: на нашых кандыдатаў галасавалі не толькі на Беласточчыне. Беларускі выбарчы камітэт у Варшаве атрымаў 384 галасы, у Вроцлаве — 161, у Гданску — 379, у Кашаліне і Слупску — 154, у Ольштыне і Эльблангу — 347, у Бела-Падляшскай і Седльцах — 221. І хаця на нашых кандыдатаў у паслы на Беласточчыне галасавала ўсяго 4435 выбаршчыкаў, то калі ім была прадстаўлена магчымасць выбару двух кандыдатаў у сенатары, наш камітэт атрымаў 30.640 галасоў. Ад чэрвеня 1989 года падтрымка для нашага палітычнага руху ўзрасла на звыш 6 тысяч галасоў. Так што за палітычны беларускі рух, шаноўныя спадары палітыкі, дарма вы хваляцеся. Ён жыве.

ВІКТАР СТАХВЮК

# Зорка

## старонка для дзяцей

**Алаіза Пашкевіч (Цётка)**

### СВАРБА

Пасварылася вясна з зімою, ну і давай адна адной злосць рабіць.

— Я, — кажа вясна на зіму, — не буду з табой шмат гаварыць! За каўнер і так шпургану, што аж за лясамі ты ў мяне апынешся!

— Маўчы, маўчы, — бурчала белая зіма. — Хіба я цябе ў барані рог заганю, як сцісну, то аж табе вылезуць вочы.

Ну і пачалі адна адной наперакор рабіць. Зіма паўзе з марозам — вясна лезе з адлігай, ізноў няма парадку. Цярпелі людзі, цярпелі, а после давай сход рабіць, давай радзіць, на чыёй тут старане ім стаць. Адны казалі:

— Мы яшчэ не вымалацілі збожжа, не навазілі дроў, не адпачылі после летняй працы, хай пабудзе зіма.

Другія зноў крычалі:

— Вон зіму! Яна нас памарозіць, мы і так лапці патапталі, кажухі абадралі. Досыць нам яе, хочам вясны.

І няведама, як то яно прайшло б на тым сходзе, каб не ўвайшоў старэнькі жабрак і не пачаў жаліцца на зіму.

Праўда: вушы былі абмарожаны, рукі пакрэпшы, світка рвана, сам ён дрыжаў ад холаду. Увесь сход закрычаў у адзін голас:

— Не хочам зімы! Хай вясна ідзе да нас!

Бедная зіма заплакала горка на людзей, слёзкі яе цяклі са стрэх, білі па шыбах, разліваліся па зямлі, збягалі ў лужы, з лужаў у рэчкі, з рэчак у моры, з мораў у акіяны.

А вясна смяялася, строілася ў кветкі, гарцавала па палях, песцілася ў садох, шчабятала з птушкамі, цалавалася з дзеткамі, аж пакуль не пасварылася з летам.

Хто цяпер абдалее, скажыце, дзеткі, самі.



*Мурчык Янкі Целушэцкага збіраецца ў падарожжа.*

## Для самых маленькіх

**Еўдакія Лось**

### ЧАРАПАХА

Чарапаха-
Некусаха
У зялёных латах
Па траве паўзла памалу
Паміж хвой кашлатых.
Да яе падскочыў жвавы
Конік-
Неўгамонік,
Сеў на плечы некусахі,
Расцягнуў гармонік.

Чарапаха ж не паўзе:
Раптам конік падвязе!

**Паўлюк Прануза**

### ПАВУЧОК

— Павучок, павучок,
Дзе купіў ты чаўначок,
Каб наткаць сабе тканіны,
Што завецца павуцінай?
— Не даваў нікому грошай.
Майстар я, з сям'і харошай,
На галінках, на суку
Сам праду і сам жа тку.

**Міхась Рудзішкін**

### КРЫКУНЫ

Нарабілі ў садзе крыку
Вераб'і-задзіры зноў.
Дзякуй коціку Мурлыку:
Разагнаў ён крыкуноў.

*************************************************************************

## КАЗКІ БАБУЛІ ПАРАСКІ

**ПРАДСТАЎЛЕННЕ ПАВОДЛЕ БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ КАЗАК.**

**Дзеючыя асобы: Казачніца, Баба, Дзед, Маня, Анжэла, Васіль, Бычок, Конік, Каза, Бацян.**

**КАЗАЧНІЦА.** Калі я была малая, такая як вы, рабяты, мая бабуля Параска расказвала мне шмат казак. Я іх запомніла. І цяпер раскажу адну вам. А каб вы іх лепш запомнілі, то і пакажу іх з дапамогаю самадзейных артыстаў. (*Называюцца ўдзельнікі прадстаўлення.*)

Слухайце і глядзіце! Жылі былі дзед з бабаю. І былі ў іх дзве дачкі: дзедава Манечка — прыгожая, добрая і працавітая, і бабіна Анжэла — разадзетая як прынцэса, разбэшчаная, лянівая...

*На сцэне дзед, які збіраецца ісці малаціць, баба з міскаю і лыжкаю ў руках. Маня з мяшком і Анжэла са скакалкай.*

**БАБА** ( *ходзячы за Анжэлай з лыжкай кашы*). Гані, Манька, бычка пасці! Ды не лянуйся!.. Хай наядае мяса, рэзаць будзем... З'еш, дачушка, яшчэ лыжачку!..

**АНЖЭЛА** (*нязграбна падскокваючы*). Адчапіся!..

**ДЗЕД.** Гані, Манечка, у вулін... Я там непадалёку буду...

**БАБА.** У цябе, дзед, свая справа, а ў яе — свая!.. Ды каб лынды не біла, заадно фасоль перабяры, а то Анжэлка не любіць, каб у талерцы рабыя фасоліны былі...

**АНЖЭЛА.** Ну і не люблю!.. Бо не хачу, каб сама зрабілася ад іх рабой.

**БАБА.** Не хвалюйся, даражэнькая!.. Рабую Манька з'есць... А ты во кашку... Беленькую кашку еш... А то ўсё скачаш, скачаш... Так і пахудзееш...

*Анжэла падае.*

— А-ей!.. Зноў паваліліся...

**АНЖЭЛА** (*пачынае хныкаць*). Я не ўмею...

**БАБА.** Манька! Пакажы-тка Анжэлцы як трэба... скакаць.

(*Маня бярэ скакалку і падскоквае, як той мячык. Дзед ёю залюбаваўся, а баба раззлавалася.*

— Чаго расскакалася?.. Паказала і хопіць! Скача і скача. Абы не рабіць...

**ДЗЕД** (*узяўся несці мех*). Пойдзем, Манечка! Я табе несці падсаблю...

**БАБА** (*адбірае мяшок у дзеда*). І сама няўломак!.. Аднясе!.. Нечага з яе барыню гадаваць... Вочы б мае не бачылі...

*Тут Анжэла зноў падае. Баба бяжыць да яе, падымае і войкаючы, вядзе ў хату. А дзед тым часам мяшок ускінуў на плечы і пабег. Да Мані падышоў бычок, прывітаў яе паклонам.*

**БЫЧОК.** Чаго, Манечка, сумная такая?

**МАНЯ.** Загадала мачыха цябе на мяса карміць...

**БЫЧОК.** Не бядуй! Не пакаштуе твая мачыха майго мясца...

**МАНЯ.** А яшчэ прыказала мяшок фасолі перабраць...

**БЫЧОК.** Такой бяды. Шапні мне на вуха тыя словы, якім я цябе навучыў...

*Маня прыклалася да бычынага вуха і з'явіўся Бацян.*

**БАЦЯН.** Добры дзень! Што прыкажаце, паважаныя?

**МАНЯ.** Бацянок даражэнькі! Дапамажы! Зноў мачыха загадала фасоль раздзяліць: для сябе і дачкі — белую, а мне з таткам — рабую.

**БАЦЯН.** Не бяда! А дзе мех?

**МАНЯ.** Вунь за тым кустом татка паклаў!..

**БАЦЯН.** Будзе зроблена! А ты, Манечка, адпачні!..

**МАНЯ.** Не магу, Бацянок! Вунь татка мой увіхаецца. Трэба жыта яму абмалаціць дапамагчы.

**БАЦЯН.** І жыта памалоцім. Вось толькі я сяброў клікну. (*Знікае, а праз кароткі час з'яўляецца з Конікам і Казою).* Вось і памочнікі на малацьбу. Вядзі нас!..

**МАНЯ.** Добры дзень! А вы хіба ўмееце?

**КАЗА.** А як жа! Каза на край свету пабяжыць, абы каб малаціць...

**КОНІК.** А якая ж малацьба без каня?!

*Усе гуртам падыходзяць да Дзеда.*

**МАНЯ.** Прымай, татка, памочнікаў!

**КАЗА.** Добрае жыта ўрадзіла?

**ДЗЕД.** Добрае, дзякую. Ці не тая ты каза, што нам на калядзы жыта добрага нажычыла?

**КАЗА.** Тая самая. Памятаеце? (*Спявае*) Дзе каза паходзіць, там жыта зародзіць.

**КОНІК.** Дзе каза нагою, там жыта капою.

**КАЗА.** Дзе яна рогам, там жыта стогам...

**МАНЯ.** Дзякую, Козачка! А каб нам весялей працавалася, давайце спяваць і танцаваць.

*Усе, акрамя дзеда, танцуюць і спяваюць.*

А мы жыта сеялі-сеялі...
А мы жыта сеялі-сеялі...

*Прыпеў:* А я малада (маладзец)
топ-топ-топ...
А я малада (маладзец) хлоп-хлоп-хлоп...
А мы жыта пажыналі...
А мы жыта пажыналі...

*Прыпеў.*

А цяпер малоцім жыта...
А цяпер малоцім жыта...

*Прыпеў.*

*Прыбягаюць баба з Анжэлай.*

**БАБА** (*схапіла палку і пачала разганяць*). Кыш!.. Брысь адсюль!.. Ах ты, абібок стары!.. Якую хэўру сабраў. Яны ж усё перапсуюць... (*Разагнаўшы да Мані*) А ты чаму фасоль не перабіраеш?

**МАНЯ.** Перабрала ўжо. Вунь мяшкі ляжаць...

**БАБА.** Нясі, дзед, мяшкі да хаты, а Манька няхай яшчэ пасе бычка.

**ДЗЕД.** Няхай бы і Манечка дамоў шла. У яе ж сукеначка бачыш якая маленькая ды старэнькая, камары яе заядуць...

**БАБА.** Маўчы! Няхай з'ядуць яе тыя камары... Вочы б мае яе не бачылі. Пайшлі, Анжэлка!..

*Баба з дзедам знікаюць, а Анжэлка затрымліваецца.*

**БЫЧОК.** Шапні, Манечка, мне тыя словы.

*Маня шэпча, з'яўляецца Бацян.*

Чуў, Бацянок, што баба сказала?

**БАЦЯН.** Чуў!..

**БЫЧОК.** Што рабіці будзем? Замучае баба дзяўчынку. А яна такая добрая ды працавітая. Кормiць мяне лепшай траўкай. Поіць крынічнай вадзіцаю...

**БАЦЯН.** А прыгожая яна якая!..

**МАНЯ.** Якая я прыгожая?.. У гэткіх лахманах...

**БАЦЯН.** Будуць у цябе, Манечка, добрыя апраткі. Вось дай мне толькі часу злётаць да свае хаткі... (*Паляцеў і вярнуўся з хлопчыкам, які падае Манечцы чаравікі і ўбор*).

**ВАСІЛЬ.** Добры вечар, Манечка.

**МАНЯ.** Добры вечар. Адкуль ты мяне ведаеш?

**ВАСІЛЬ.** А хто ж не ведае пра дзедаву дачку... Вось бяры абновы і

( **Працяг на стар. 10** )

## КАЗКІ БАБУЛІ ПАРАСКІ

( Працяг са стар. 9 )

пераапранайся.

МАНЯ (*засаромілася*). Ой, не магу. Гэта ж не мае чаравікі...

ВАСІЛЬ. Твае. Для цябе шытыя.

МАНЯ. Мне б за іх адрабіць таму добраму чалавеку, хто шыў гэтыя чаравікі.

БАЦЯН. Адробіш, Манечка! Бяры! Гэта ўсе для цябе.

*Маня ўзяла рэчы і пайшла за куст.*

БАЦЯН. Забярэм мы з Васільком Манечку.

БЫЧОК. А ці ў добрыя людзі забярэце?

БАЦЯН. У добрыя. Бацька ягоны боты шые, маці — лепшая швачка. Дачушкі яны не маюць... Вось і будзе ім дачушка.

ВАСЯ. А мне сястрычка...

*Прыходзіць пераапранутая Маня.*

БАЦЯН. Ці падабаюцца табе ўборы, Манечка?

МАНЯ. Яшчэ як! (*Кружыцца*) Дзякую, Бацянчык, за гэткую абнову. Толькі ж я баюся ў ёй ісці дадому...

БЫЧОК. А мы і не пойдзем. Васілёк цябе за сястрыцу бярэ...

ВАСЯ. Пойдзем са мною. Будзеш мне сястрою.

МАНЯ. Дзякую шчыра. Але каб і бычок са мною пайшоў...

БЫЧОК. За мяне не клапаціся, Манечка! Ідзі з Васільком! Ты, Бацянок, вядзі іх, а то ноч настае...

БАЦЯН. А ты? Няўжо на мяса згодзен пайсці?

БЫЧОК. Не!.. Але ў мяне тут справа адна ёсць. Спяшайцеся. Я вас даганю... (*Толькі нашы героі адышлі, як пачуліся галасы.*)

БАБА. Дзе яны? Дзе?..

АНЖЭЛА. Ды толькі што тут былі... Калі б ты, мамка, толькі бачыла, якую Маньцы абнову прынеслі... І я такую хачу...

БАБА. Не плач, дачушка. Будзе і ў цябе!.. Толькі адкуль тая абнова ўзялася, ты мне толкам раскажы.

АНЖЭЛА. Хлопец прынёс...

БАБА. А хлопец адкуль узяўся?

АНЖЭЛА. Бацян прывёў...

БАБА. А бацян адкуль?..

АНЖЭЛА. Ды з бычынага вуха...

БАБА. Як такое можа быць?..

АНЖЭЛА. Ня ведаю. Але як толькі Манька да бычынага вуха вусны прыставіла — ён і з'явіўся...

БАБА. А... Пэўна яна дзьмухнула яму ў вуха і выдула... А во і бычок сюды ідзе! І ты яму ў вуха дзьмухні...

*Анжэла не ведае як да Бычка і падступіцца, бо той ад яе ўцякае.*

Дзед! Ідзі патрымай бычка!

*Выйшаў дзед і ўзяўся трымаць бычка, а Анжэла пачала дуць яму ў вуха. Тут Бычок як не стукне яе нагою, ды як пабяжыць да бабаю...*

АНЖЭЛА. Мамка, памажы!.. Падымі, мамка!..

БАБА. Дзед, барані!.. (*Павалілася побач з дачкой, а бычок стаіць над імі і круціць рагамі.*)

Рэж яго, дурань стары.

ДЗЕД. Нажа няма.

БАБА. А дзе нож?

ДЗЕД. Згубіў!

БАБА. Знайдзі!

ДЗЕД. І шукаць не буду. І рэзаць не буду...

БАБА. Тады каб у двор ні нагой!.. Выганю...

ДЗЕД. Гнаць не прыдзецца. Ужо лепш у свет пайсці, чым з вамі жыць...

БЫЧОК. Не ўбачыш ты, злая баба, ні Манечкі, ні дзеда, ні мяне! Пайшлі, дзедка, нашых даганяць.

КОНІК (*прыбег аднекуль*). І я з вамі пайду. Калі стары чалавек прытоміцца — падвязу.

КАЗА (*з'явілася следам за конікам*). І мяне з сабою вазьміце. Калі есці захочаце, я вас малачком пачастую...

КОНІК. У бабы гэтай мы заставацца не хочам... Сама лайдачка і дачку такой жа выгадавала.

КАЗА. Вось. Няхай самі на сябе папрацуюць. Што нажывуць — тое і спажывуць...

КАЗАЧНІЦА... І пайшлі Бычок з Дзедам ды Конік з Казою Манечку з Васільком даганяць. А злая баба падняла сваю ляпівую дачку і кульгаючы пайшлі яны ўдвух дамоў...

Канец

АЛА САСКАВЕЦ

*Адгадкі: пчала, рабіна ўвосень, дождж, павуціннe, плуг.*

***********************************************

## Вершы Віктара Шведа

### ЛЯЖЫЦЬ НА ІГРАННІ

Дачушка малая
Да ўсяго прывычна.
Яна аглядае
І канцэрт скрыпічны.

— Глянь, мая матулька,
Што тут на экране:
— Вось гэты пан Кулька
Ляжыць на ігранні.

### СЫНОК ПРЫЙШОЎ ІГРАЦЬ

Апошні музыкі урок,
Бацькоў прыйшло у школу крыху.
Настаўнік кажа: — Ваш сынок,
Коля, зусім не мае слуху.

Матуля хоча даказаць,
Што тут не вінаваты Колька:
— Прыйшоў сюды ён каб іграць,
А не каб меў ён слухаць толькі.

Адзін ёсць толькі руль.

Уладзімір Карызна

### ЗАГАДКІ

Гудзе,
Ды не самалёт,
Можа раніць,
Ды не страла.
Хто адгадае,
Хто гэта?

Пад акном
Гарыць чырвоным агнём.
Дом ад яе
Не загараецца.
Ніхто тушыць яе
Не збіраецца.

Мокры цыбач
Прыляцеў наўскач,
Лёг на сенажаць —
Яго й не відаць.

Нітак шмат,
Ды іх, дружок,
Не зматаеш
Ты ў клубок.

Зямлю лычом варочае
Гарбаты гэты дзед.
Сам есці век не хоча ён,
А корміць цэлы свет.

*Адгадкі шукай на старонках „Зоркі".*

## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## САРОКА

Сарока — птушка сям'і крумкачовых атрада вераб'інападобных. Жыве ў Еўразіі (за выключэннем поўначы Цэнтральнай Азіі і Індыі), Паўночна-Заходняй Афрыцы і заходніх раёнах Паўночнай Амерыкі. На Беларусі шматлікі, звычайны аселы від. Зімой вандруе невялікімі чародамі, часта трымаецца населеных пунктаў, асабліва сельскага тыпу. Сарока селіцца ў лісцевым драбналессі сярод палёў і балот, зарасніках вербняку на лугах, у поймах рэк, гаях, парках, лясных палосах уздоўж дарог, паблізу ўзлесся. Сарока буйных глухіх лясоў пазбягае. Жыве парамі. Сарока ўсёедная — корміцца насякомымі, яйкамі і птушанятамі дробных птушак, мышападобнымі грызунамі, харчавымі адкідамі і іншым. Можа паляваць на куранят. Сарока вельмі асцярожная і кемлівая птушка. Старыя гнёзды сарокі часта выкарыстоўваюць совы і вавёркі.

Даўжыня цела сарокі да 48 см, маса да 260 г. Апярэнне мяккае, кантрастнае, чорна-белае з зеленавата-сіневатым бляскам. Галава, шыя, спіна, крылы і хвост чорныя; брушка, грудзі, плечы і плямы на крылах белыя. Хвост сарокі доўгі, ступеньчаты. Голас — рэзкае стракатанне, асабліва пры з'яўленні чалавека ці звера ў межах існавання. Сарока пачынае гняздзіцца з сярэдзіны сакавіка. Гняздо размяшчае ў густых галінах куста або дрэва, часцей на вышыні 1,3-3 м, будуе яго з сучча, сцяблоў і каранёў травы, замацаваных унутры граззю ці глінай, высцілае поўсцю. Гнездавы латак дыяметрам 15-20 см, зверху і з бакоў укрыты „дахам" з рэдка накладзеных сучкоў. Гняздо будуюць абедзве птушкі. Кладка 5(6-8) блакітна-зеленаватых з буравато-памі плямкамі яек, з сярэдзіны красавіка. Насэджванне (толькі самка) з адкладкі першага яйка 17-18 сутак. У першыя дні пасля з'яўлення птушанят корм ім прыносіць толькі самец. Лётныя птушаняты (праз 22-27 сутак) спачатку трымаюцца вывадкам. Сарокі ўзятыя з гнязда добра прыручаюцца.



***********************************************



## СНЕЖАНЬ

На двары снежань. Сонца ходзіць каля гарызонта. Стыне паветра. Першае дыханне зімы акоўвае зямлю, прымарожвае балоты, пакрывае звонкім лёдам азёры і рэкі. Для рыбаловаў-падлёднікаў наступае радасная доўгачаканая пара.

Раніцай на свежым снезе можна многа даведацца пра жыццё прыроды. Сляды мацерых звяроў і мелкіх звяркоў клічуць з дому паляўнічых, якім вельмі хочацца пракладваць сцежкі-дарогі за непаседам-зайцам.

Канчаецца астранамічны год. 22 снежня наступае зімовае сонцастаянне — гадавое свята прыроды — Сонцаварот! З гэтага моманту дня няспынна прыбывае. У прыродзе пачынаецца новы круг з'яў.

Пажадаем жа ўсяму жывому, нашай добрай маці Зямлі дабрабыту і гармоніі.

З Новым годам, вечная і заўсёды новая прырода!

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

## АДГАДАНКА




Укінь у пустыя скарбонкі 60, 70, 80 злотых такім чынам, каб у скарбонках спалучаных лініямі было ў суме 150 злотых.

## ПАЗІЦЫЯ н-р 1

Вось яна. Чакае. Цяпер усё залежыць ад цябе. Сагні сваё цела ў дугу, прыгні калені. Вазьмі яе моцна з двух бакоў. Падкурч ногі і ўсунься ў свабодную прастору пад ёю. Прыліпні да яе ўнутранай стараной сцёгнаў. Не паслабляючы абдымкаў зрабі некалькі плаўных рухаў бёдрамі і суньс шторaз глыбей. Прытулі яе да грудзей. Расстаў ногі. Перасунься крыху ў правы бок. І яшчэ трошкі. Добра! Перакладзі пад яе сваё правае бядро. Націрай усім целам. Яна ўжо насупраць твайго жывата. Ты ўжо пан сітуацыі!

Цяпер можаш павіншаваць сябе! Табе ўдалося сесці за баранку малога Фіата!

## НА АДЛЕГЛАСЦЬ

— Ці можна кахацца на адлегласць?

— пытае дзяўчына хлопца.

— Так, — задуменна адказвае хлопец. — Можна. Пад варункам, што адлегласць будзе карацейшая за даўжыню.




–*Думаю, што хопіць ужо гэтай тэорыі!*

## ПАРОДЫІ

**ЯНКА**

*Узмахну рукою:*
*„ Прыпыніся, Янка!..”*
**Зінаіда Дудзюк**

Каляровым ранкам
Выйшла пад павецце.
Зірк удалеч — Янка
Ў калымазе едзе.

Конік — неўталоннік,
Янка — летуценнік:
На плячы гармонік,
Стрэльба на каленях.

Падышла да ганка,
Каб не асурочыць.
— Прыпыніся, Янка! —
Ён глядзець не хоча.

Тут мне не да смеху, —
Слова ён парушыў,
Бо страляць паехаў
Маіх родных птушак.

**ГЕОРГІЙ ЮРЧАНКА**







*Мал. П. Козіча („Вожык”)*

### КАЛЮЧЫЯ ФРАЗЫ

Калі ж нарэшце знойдуць і раздадуць народам былога СССР каштоўнасці сацыялізма?

*

Адкуль столькі камуністаў, калі камунізму як такога няма, не было і не прадбачваецца?

*

Пытанне: Якая самая моцная зброя ў свеце?
Адказ: Крэйсер „Аўрора”. Адзін стрэл халастым, і 73 гады разрухі.

*

Ці вырашыцца жыллёвае пытанне пераводам краіны на казарменнае становішча?

*

Як гэта здарылася, што ішлі наперадзе, а апынуліся ззаду ўсіх?
Проста ішлі не ў той бок.

*

Скажы, якія ты выпісваеш выданні і я скажу хто ты.

Краінай павінны кіраваць не партыйныя, а разумныя людзі.

*

Няхай жыве наша харчовая праграма! Яна самая смачная праграма ў свеце!

*

Цвярозасць — норма жыцця!
У гастраноме: норма на снежань — дзве пляшкі гарэлкі і адна віна на чалавека.

**ВАЛЕРЫ БАБЕЙ**

## ГУМАР АД ЧЫТАЧОЎ

Дыктар у тэлевізары:
— Паводле статыстычных дадзеных у Кітаі кожнае 47 сукунд нараджаецца дзіця.
Жанчына перад тэлевізарам:
— Неверагодна! Як ім удаецца дабіцца такой дакладнасці?

* * *

Ад'ютант дакладвае генералу, што яго жонка ў той момант кахаецца з прыстойным ротмістрам. Абодва ўбягаюць у кватэру і застаюць каханкаў у ложку. Генерал хоча выхапіць шаблю, але тая зашчамілася ў ножнах, пісталет таксама не выстраліў. У такой нечаканай сітуацыі ад'ютант раіць генералу:
— Рагамі яго, пан генерал, рагамі...

* * *

— На чым ты сюды прыехаў?
— На машыне.
— Шкада, пайшлі б на чарку гарэлкі.
Такая сітуацыя паўтараецца другі, трэці раз. На чацверты раз госць пакідае машыну дома.
— На чым ты сюды прыехаў?
— На аўтобусе.
— Шкада, падвёз бы ты мяне да швагра.

* * *

— Дзе ж вы падзелі справаздачы! — злуецца дырэктар на сакратарку. — Сам ужо не ведаю, хто тут дурань, я ці вы?
— Думаю, — адзываецца сакратарка, — што вы дурную сакратарку на работу не прынялі б.

* * *

— Чаму вы прыйшлі ў шкарпетках? — пытае сакратарка чыноўніка.
— Дырэктар мяне вызывае на дыван.

* * *

Сціск быў такі вялікі, што калі б не жанчыны, то не было б дзе і пальца ўваткнуць.

**Даслаў**

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## КАСЯК НА „Ж”




**Управа:**1/ размінанне ежы зубамі, 3/ пражывае ў населеным пункце, 5/ млынавы камень, які можна ўлажыць з завостранага кія, 7/ мае нявесту, суджаны ёй.

**Улева:** 2/ тупая паляўнічая куля на буйнога звера (можна ўлажыць з лятучай мышы), 4/ від выяўленчага мастацтва, 6/ імкненне, ахвота, мара, 8/ у яе муж.

**„ядань”**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 44: Управа:** выемка, веер, віраж, Вроцлаў, вешалка, Віталь, вытак, войт. **Улева:** воін, вяршкі, верабей, весць, Ватыкан, вагон, віскат, вось.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Аляксандр Дабчынскі з Беластока.

****************************************

Ніва

„Niwa”, ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł. a od 1 stycznia 1992 r. - 3000zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- grudzień - 12. 500 zł
- styczeń - 12. 000 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.